PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

**№ 29 (2044) ГОД XL БЕЛАСТОК 16 ЛІПЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)**

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ ГЕНЕРАЛЬНАГА КОНСУЛА БЕЛАРУСІ Ў БЕЛАСТОКУ

## Наканавана нам жыць разам!

Доўгачаканая прэс-канферэнцыя адбылася 3 ліпеня г.г. у сядзібе Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. На ёй беластоцкім журналістам прадставіўся праф. Міхась Слямнёў, які ад 29 чэрвеня 1995 года атрымаў афіцыйны дазвол на выконванне функцыі Генеральнага консула Беларусі ў Беластоку.

Як вядома, паўтара года першае дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі (і наогул першае) у Беластоку чакала назначэння Генеральнага консула. Арганізацыяй консульства ад нуля (як высветлілася, цалкам нялёгкай справай у беластоцкіх варунках) займаўся консул Ігар Хадасевіч.

Прафесар Міхась Слямнёў, доктар філасофскіх і кандыдат фізічных навук, — да сёння з'яўлясцца дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Ад першай сесіі Вярхоўнага Савета ўзначальваў камісію па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах. Цяпер, сказаў Генеральны консул, даводзіцца рэалізаваць самому тое, што раней распрацоўваў.

Міхась Слямнёў адначасова кіраваў парламенцкай групай Вярхоўнага Савета па супрацоўніцтву з польскім Сеймам. У Беластоку і на Беласточчыне быў пяць разоў. У 1993 годзе удзельнічаў у падпісанні дагавору паміж Беларуссю і Польшчай (тады прысутнічалі Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка). Падчас таго візіту было адкрыта першае пасольства Беларусі ў Польшчы. Бачыў гэта ў Азербайджане, Арменіі, Нагорным Карабаху.

Удзельнічаў таксама ў міратворчай камісіі і з вопыту добра ведае, як лёгка распаліць пажар на міжнацыянальнай і рэлігійнай глебе і як цяжка яго пасля пагасіць.

Пра ўсё гэта паведаміў журналістам у сваім уступным слове прафесар М. Слямнёў. Яшчэ дадаў, што разумее, у які складаны час для Беларусі і Польшчы прыехаў ён у Беласток. Няма паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы. У польскай прэсе паяўляюцца непрыхільныя да Беларусі артыкулы. Адзін з палітолагаў піша нават, што суадносіны між Польшчай і Беларуссю будуць пагаршацца з кожным днём.

Мы ўсе разам, сказаў Генеральны консул, павінны рабіць усё, каб не дапусціць да сапсавання адносін паміж нашымі дзяржавамі, якія знаходзяцца па-суседску. Будуць прыходзіць і адыходзіць кіраўнікі, а народы застаюцца на месцы. Наканавана нам жыць разам!

Пытанні журналістаў былі канкрэтныя. З кім Генеральны консул мае намер сустрэцца перш за ўсё ў Беластоку? — Вядома, з ваяводам — у сераду 5 ліпеня а гадз. дзевятай; а гадз. дзесятай — сустрэча беластоцкага ваяводы Анджэя Гаеўскага і гродзенскага старшыні аблвыканкама Аляксандра Дубко. Ці будзе падпісаны дагавор між Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю? — Так.

А пасля сустрэнуся, сказаў Міхась Слямнёў, з прэзідэнтам Беластока, з вышэйшым духавенствам Праваслаўнай і Каталіцкай царквы, з рэдактарамі беластоцкіх газет і часопісаў. Мушу разабрацца ў сітуацыі на месцы.

Як бы консул мог пракаментаваць вынікі апошняга рэферэндуму? — Адносіны да рэферэндуму на Беларусі неадназначныя. Заўважаецца разгубленасць, аж да панікі. Некаторыя лічаць, што на гэтым працэс беларускага нацыянальнага адраджэння закончыўся. Я лічу, сказаў М. Слямнёў, што няма патрэбы драматызаваць. Вынікі не былі неспадзяванымі для таго, хто хоць крыху быў знаёмы з доследамі сацыёлагаў. Што датычыцца мовы і сімвалаў, дык прагнозы былі яшчэ больш панурыя. У гэтым моманце консул спаслаўся на Адама Міцкевіча, які казаў: калі ў селяніна знішчыць градам пасевы, што ён робіць? — Ён пачынае сеяць ізноў! Беласточчына з'яўляецца добрым прыкладам на тое, як культывуецца беларуская мова.


*Генеральны консул Беларусі Міхась Слямнёў і консул Ігар Хадасевіч.*

Не змог адказаць Генеральны консул на пытанне аб новых сімвалах на будынку консульства. Не мы гэта вырашаем, падкрэсліў ён, чакаем адпаведных інструкцый аб змене сімволікі ў нашай консульскай установе. І дадаў: можна рабіць дрэнную справу пад добрымі сімваламі і наадварот.

Ці не адчувае сябе на гэтай пасадзе навуковец так, быццам бы быў сасланы ў ссылку? — Не! Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько пераканаў яго, што пасада Генеральнага консула ў Беластоку па сваёй палітычнай значнасці не меншая за пасла. Лічу, што мне даручана, сказаў М. Слямнёў, вельмі важная і адказная праца. Як навуковец, я адчуваю сябе тут цудоўна. За апошнія пяць гадоў, калі быў дэпутатам Вярхоўнага Савета, я і так нічога не напісаў, апрача палітычных артыкулаў, хаця ў галіне фізікі, матэматыкі, логікі і філасофіі апублікаваў раней больш 100 навуковых прац, выдаў 12 манаграфій. На Беласточчыне можна хутка зрабіцца і паэтам, а калі не паэтам, дык прынамсі пісьменнікам. Такое тут багацце самабытнай культуры, цікавыя людзі. Калі пабываў у Беластоку на Свяце беларускай культуры, дык пачуў шэраг такіх беларускіх песень, якіх не чуў на радзіме. Будзе час — дык і пісаць будзе аб чым!

Ці будзе нешта зроблена, каб разгрузіць доўгія чэргі на граніцы? — Консул сцвердзіў: будзем біцца за тое, каб дапамагчы людзям.

А як цяпер будуць выглядаць справы беларускай мовы на Беларусі? Вядома ж, што зачыняюцца некаторыя беларускія газеты, родная мова становіцца ў святле апошніх падзей усё менш важнай і прыдатнай. — Гэтыя справы вырашае Вярхоўны Савет, чарговая сесія яго адбудзецца ў верасні. Новую дзяржаўную палітыку будзе весці новы Вярхоўны Савет. Камісія, якая будзе займацца гэтымі справамі, напэўна, зразумее адказнасць перад дзяржавай, сваім народам.

Ці першае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку не павінна атрымаць больш імпануючае і зручнае памяшканне? — Бадай, няма тут палітычных матываў. Магчыма, справа памяшкання так зацягнулася таму, што не было тут Генеральнага консула. Часовае памяшканне рыхтаваў консул Ігар Хадасевіч. Гэтае пытанне павінна хутка вырашыцца. Уладам Беластока хопіць, бадай, палітычнай мудрасці. Дзякуй ім за тое, што ўстанавілі дзяжурствы паліцыі. Можа запрапануюць што лепшае, або прынамсі дадуць другі паверх, бо сумяшчэнне дзяржаўнага і бытавога немагчыма.

Пры нагодзе журналісты даведаліся, як была вырашана справа будынка польскага консульства ў Гродне. Там падобных праблем не было. Знайшоўся беларускі грамадзянін польскага паходжання, які даў грошы на будову памяшкання для консульства. Ужо рыхтуецца пляц.

Якую дзейнасць плануе новы Генеральны консул у адносінах да беларусаў Беласточчыны? — пытанне рубам. У адказе Генеральны консул спаслаўся на выказванне колішняга міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі, што хутка, каб пачуць беларускую мову, трэба будзе ездзіць на Беласточчыну. Вядома, гіпербалізацыя, аднак, тое, што дзеецца на Беласточчыне, гэта прыклад для беларусаў з-за мяжы. А ўсё ж такі найлепш было б, каб сама дзяржава клапацілася пра свае нацыянальныя меншасці. У гэтай справе вельмі лёгка можна перакрочыць небяспечную мяжу.

Такім чынам, найбольш канкрэтнай часткай прэс-канферэнцыі ў Консульстве РБ у Беластоку (якое, дарэчы, ахоплівае сваёй дзейнасцю аж восем ваяводстваў) было ўступнае слова Генеральнага консула М. Слямнёва, дзе ён інфармаваў найбольш пра сваю ранейшую дзейнасць.

Не ведаю, ці журналісты, якія заўсёды хацелі б усё ведаць, мелі поўную сатысфакцыю з другой часткі прэс-канферэнцыі: пытанняў і адказаў. Мо хацелася б ім, каб консул вырашыў адразу ўсе праблемы і балючыя пытанні, якіх назбіралася вакол беларуска-польскіх спраў нямала. Але консул гэта толькі консул — пасланец і выканаўца пастаноў урада, які вядзе акрэсленую палітыку.

Беласточчыну новы Генеральны консул прывітаў з аптымізмам. Так яно, бадай, і павінна быць: наканавана нам жыць разам.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

P.S. Перакладчыка на прэс-канферэнцыі не было. Відаць, быў непатрэбны, калі ўсе беластоцкія журналісты ўсё дакладна зразумелі па-беларуску.

**А.Ч.**

## „СПРАВА ЯНОВІЧА"

Такім тэрмінам у гмінах Беласточчыны назвалі распараджэнне Управы Рады Міністраў Рэчы Паспалітай, каб лакальныя самаўрады правялі кансультацыі з жыхарамі тых мясцовасцей, якіх назвы былі змененыя дзяржаўнымі ўраднікамі, наконт вяртання іх гістарычнай формы. Пра меркаванне войтаў і райцаў некаторых нашых гмін пісалі мы ў „Ніве" (н-р 27 і 28), пісала таксама польская беластоцкая прэса. Тое, што адмоўна да прапановы дыскусіі на гэту тэму паставіліся палякі не здзіўляе, не здзіўляе таксама абыякавасць беларускага насельніцтва да таго ці жывуць яны ў вёсцы з назвай, якую прыдумалі іх продкі ў XV стагоддзі, ці з назвай, якую запісалі санацыйныя ці геркаўскія ўраднікі. Абыякавасць да роднага слова, культурнай спадчыны, гісторыі, зямлі ёсць як бы прыкметай нашага народу, нягледзячы на тое, ці жыве ён у сваёй дзяржаве, ці ў суседняй краіне. Здзіўляе аднак істэрычная рэакцыя некаторых палякаў, ці апалячаных беларусаў і ўспрыманне гэтай справы ў катэгорыі міжнацыянальнага канфлікту, быццам бы вяртанне гістарычных назваў мясцовасцей мела весці да этнічнай разні. У якім свеце мы жывём, калі змена адной літары ў назве вёскі мае быць прычынай „балканізацыі" сітуацыі на Беласточчыне. Гэта спосаб мыслення людзей, якія жывуць у атмасферы страху, падазронасці, міфалагічных уяўленняў пра іншых. Справа вяртання гістарычных назваў мясцовасцей адкрыла чарговы раз сапраўдную псіхалагічную сітуацыю на Беласточчыне. Калі з абурэннем райцы і войты некаторых гмін успрымаюць прапанову дыскусіі над вяртаннем мясцовасцям іх старадаўніх назваў, лёгка сабе ўявіць, што дзеялася б, калі б прыйшло распараджэнне ўвесці двухмоўныя шыльды, двухмоўе ва ўстановах там, дзе жывуць нацыянальныя меншасці. А ўсё гэтае існуе ў цывілізаваным свеце, і, каб было больш смешнаа — урад Польшчы падпісаў адпаведныя трактаты, якія менавіта ў такім напрамку вырашаюць справы меншасцей. Калі хтосьпры такой нагодзе гаворыць пра пагрозу балканізацыі Беласточчыны, думае менавіта балканскімі катэгорыямі. Не сведчыць гэта добра пра адносіны паміж палякамі і беларусамі на Беласточчыне, калі гучаць такія словы. Замоўчванне справы, як прапануе лакальная знаць, нічога не вырашае. Адсутнасць беларускіх школ, ці ўвогуле абмежаваная да неафіцыйнасці беларускасць, толькі паглыбляюць з аднаго і другога боку недавер і падазронасць. Нармальная сітуацыя будзе тады, калі палякі будуць глядзець на беларусаў як на грамадзян Польшчы іншай, але акрэсленай, нацыянальнасці, а не як на нейкіх міфічных „рускіх". І на грамадзян, менавіта, якія апрача абавязкаў маюць таксама свае правы. Гэта, вядома, залежыць ад узроўню палітычнай культуры ў краіне. Але перш за ўсё патрэбныя ёсць умовы, каб беларусы маглі стаць беларусамі. У асноўным залежыць гэта ад беларусаў, але не толькі. Істэрыя, якая ўзнікае, напрыклад, у прэсе, калі з'яўляецца нейкая беларуская ініцыятыва, сведчыць аб тым, што няма атмасферы для нармальнасці ў гэтай галіне. Атмасферу аднак стварае большасць. Беларуская закамплексаванасць з аднаго боку і імкненне „крэсавых" палякаў да культурнага маналіту беластоцкага памежжа давялі на працягу гадоў да стварэння нейкага непераадольнага для абмену думкамі муру. Гэта не магло не давесці да сітуацыі, калі веды пра людзей, якія жывуць побач, заступілі ўласныя ўяўленні. А паслядоўнасці гэтага відаць пры кожнай нагодзе, хаця б у г.зв. „справе Яновіча".

**рэд.**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Mimo wielokrotnie niższych płac, część produktów, zwłaszcza żywnościowych, jest w krajach byłego bloku wschodniego nie tylko relatywnie, ale i nominalnie droższa niż w państwach zachodnich. W ciągu pięciu miesięcy tego roku najbardziej wzrosły ceny żywności (niektóre towary o 35%). Przyczyną wzrostu cen żywności jest przede wszystkim nieefektywna, drobnotowarowa gospodarka rolna. Polski rolnik jest w stanie wyżywić dziesięciu rodaków, amerykański — stu. Ponadto decyzje obecnej koalicji sprzyjają utrzymywaniu kilkuhektarowych gospodarstw. Rząd wprowadzając opłaty wyrównawcze hamuje import tańszej żywności. Polski rolnik czuje się coraz lepiej — jak w czasach gierkowskiej prosperity. Niestety, traci na tym konsument.*

*Wprost, nr 26*

* * *

*Rosja jest groźna, bo Polska klasa polityczna jest przeżarta przez moskiewską agenturę, przekupstwo, chwiejna i niezdolna do obrony suwerenności kraju.*

*Gazeta Polska, nr 23*
*(Piotra Wierzbickiego)*

* * *

*Nie mam nic przeciwko pełnemu respektowaniu praw mniejszości litewskiej, białoruskiej i ukraińskiej, lecz dopiero wówczas, gdy zacznie tu funkcjonować wzajemność wedle idealnej równowagi. Póki wyłącznie my będziemy traktować mniejszości hojnie, bez egzekwowania tego samego od sąsiadów, póty polska mniejszość na Litwie, na Ukrainie i na Białorusi będzie ciężko dyskryminowana. Przy okazji — tzw. mniejszość białoruska to już właściwie mniejszość rosyjska, gdyż prezydent Białorusi, stary agent KGB, nie bez pomocy tamtejszego ludu, czyni wszystko, by Białoruś stała się gubernią kremlowską,* — піша г.зв. „інтэлектуал” Вальдэмар Лысяк.

*Najwyższy Czas, nr 22*

Таксама думае і беластоцкі люмпен.

* * *

*Na szczytach władzy u Hitlera i Stalina było bardzo wielu Żydów,* — заявіў каўбой III Рэчы Паспалітай Войцех Цэйроўскі.

*Kurier Poranny, nr 141*

Беларуская меншасць пасля 1944 г. навязала палякам камунізм, — заяўляюць каўбоі (г.зн. пастухі) з Беласточчыны.

* * *

*Nie ma większej kary, niż przysłuchiwanie się dyskusjom toczonym na naszej scenie politycznej w czasie wakacji. Przede wszystkim ważne są dylematy prezydenckie. Lech Wałęsa będzie rozważał, czy już zdecydował się kandydować ponownie, czy jeszcze nie. Przy czym często będzie podkreślał, że ma więcej medali niż Breżniew i z tego powodu nie może ustąpić z pola walki, gdyż byłoby to poczytane za dezercję. SLD będzie cierpieć na amnezję i powtarzać, że liczy się tylko przyszłość. Przeszłość jest czarną dziurą, niebytem, nie ma więc co o niej wspominać.*

*Będą się także toczyć spory o miejsce w nowej Konstytucji dla homoseksualistów...*

*Gazeta Współczesna, nr 120*

* * *

*Stabilizacja pieniądza jest wartością życia gospodarczego i społecznego, opartego na wartościach chrześcijańskich,* — заявіла Ганна Гранкевіч-Вальц, кандыдат на прэзідэнта РП.

*Wprost, nr 26*

Ян Пстшак таксама хоча стаць прэзідэнтам.

* * *

*Что такое „советский человек”? Если ответить на этот вопрос коротко, то это — человек со смещенными понятиями о добре и зле. Как в знаменитом романе Оруэлла, правдой для такого человека служит ложь, а ложью называется правда, война — это мир, а мир — это война. Ну и рабство для такого человека — это, разумеется, свобода, а свобода — для него это рабство. В основе феномена советского человека лежит страх перед жизнью и ненависть к свободе, к самостоятельности и в социалполитической, и в духовной сфере. Советский человек может быть беспартийным, коммунистом, националистом, фашистом и даже демократом! Он может быть и верующим. Ненависть советского человека всегда принимает форму идеологической конфронтации, подкрепленной всякого рода рациональными аргументами. Но и в основе этой ненависти лежит все же психология, а не логика.*

*Свобода, н-р 23*

Інфармуем, што гэтая публікацыя ў „Свабодзе” не ёсць прысвечана беларусам Беласточчыны. „Нашых людзей” просім прабачэння, калі яны дашукаліся ў гэтых радках свае характарыстыкі.

* * *

*Nigdy żadne dziecko za komuny nie powiedziało złego słowa na księży. Teraz co dzień w szkole jest ksiądz, więc dlaczego wielu uczniów demonstracyjnie wręcz objawia niechęć do religii, a są to uczniowie z rodzin katolickich...*

*Gazeta Polska, nr 23*

* * *

*Białostocką Fabrykę Dywanów „Agnella” ktoś kupił za jej własne pieniądze. Kupujący bowiem wzięli kredyt, który „Agnella” teraz spłaca. Nieograniczone są możliwości działania ludzi pozostających blisko władzy.*

*Kurier Poranny, nr 139*

* * *

*Gdy tylko Polacy poczuli smak wolności, ruszyli w świat udowadniając, że są narodem zdolnym i ekspansywnym, potrafiącym kupić i sprzedać z wielkim talentem. Do Hongkongu sprzedajemy raciczki wieprzowe, kurze grzebienie, kacze łapy. Do krajów arabskich dobrze się sprzedają jądra bycze. Na przysmak dla ludzi. Suszone i plasterkowane jądra trafiają na rynek amerykański. Tam też są przysmakiem. Z byka nic się nie marnuje. Dochodowość z eksportu suszonych penisów jest imponująca. Uzyskuje się za nie cenę kilkadziesiąt razy większą od ceny węgla, a ich rentowność przewyższa rentowność samochodów. Gdyby byki stanęły na wysokości zadania, bylibyśmy krajem miodem i mlekiem płynącym. Ale jak to bykowi wytłumaczyć. Wysprzedaliśmy już wszystkie żaby jadalne, słynne stały się ostatnio winniczki. Trzeba było nawet uruchomić mechanizm prawny, by je ochronić przed żarłocznymi Francuzami, którzy bez obrzydzenia jedzą wszystko co na drzewo nie ucieknie. Niezły dochód uzyskujemy ze sprzedaży perzu i mleczu. Przebojem eksportowym ostatnich lat wydają się być stawonogi etnomofagiczne (robaki).*

*Polityka, nr 25*

Экспартная імперыя.

## З мінулага тыдня

Моладзь з Беларусі, Расеі і Украіны прыехала ў Варшаву, каб разам з польскімі калегамі — удзельнікамі Еўрапейскай кампаніі супраць расізму, ксенафобіі, антысемітызму і нetалерантнасці падацца ў Страсбург на **Еўрапейскі тыдзень моладзі**. У гэтым мерапрыемстве прыняло ўдзел звыш тры тысячы маладых людзей з усёй Еўропы.

**Дэмакратычны саюз венгерцаў у Румыніі** выступіў з заклікам да прэзідэнта краіны **Іона Ільеску** накласці вета на прыняты парламентам асветны закон. На думку гэтай арганізацыі закон абмяжоўвае магчымасць прымянення іншай мовы, чым румынская, у якасці мовы навучання.

**Судовых спраў** з прычыны знявагі рэлігійных пачуццяў ці публічнага прыніжэння з-за этнічнай прыналежнасці — у нас нямнога, — заявіў міністр юстыцыі **Ежы Яскерня**, адказваючы на запыт заступніка грамадзянскіх правоў праф. **Тадэуша Зялінскага**. За апошнія тры гады прыгаворана 17 чалавек за знявагу рэлігійных пачуццяў або за ганьбаванне прадметаў культу, а 16 — за прыніжэнне людзей з прычыны іх нацыянальнай, этнічнай ці расавай прыналежнасці.

Пробашч парафіі св. Брыгіды ў Гданьску кс. **Генрык Янкоўскі** ў лісце да мітрапаліта Гданьскага арцыбіскупа **Тадэуша Гацлоўскага** пакаяўся і перапрасіў за свае **непрадуманыя** — як ён сам напісаў — словы аб яўрэйскім народзе, якія ён выказаў некалькі тыдняў таму падчас казання.

**XIV Фестываль украінскай культуры**, які адбыўся ў днях 29 чэрвеня — 2 ліпеня 1995 г. у Пярэмышлі, не абышоўся без інцыдэнту. У апошні дзень мерапрыемства да будынка інтэрната, у якім прабывала 120 чалавек, галоўным чынам удзельнікаў фестывалю, былі закінуты тры бутэлькі з гаручай вадкасцю і дзве петарды. У выніку гэтага замаху былі разбіты шыбы ў двух вокнах, а ўваходныя дзверы часткова згарэлі. На шчасце ніхто з гасцей інтэрната не пацярпеў. Паліцыя затрымала шасцёх злачынцаў ва ўзросце 17—20 гадоў, якія свае паводзіны растлумачылі нецярпімасцю да ўкраінцаў. Віноўнікі будуць прыцягнены да судовай адказнасці.

**У Пуньску** адбыўся штогадовы **Фестываль тэатраў на таку**, у якім прынялі ўдзел літоўскія калектывы з Польшчы і Літвы. Артысты выступалі ў клуні, якая знаходзіцца ў мясцовым скансэне і якая можа змясціць 150 гледачоў.

**I Фестываль культуры крэсовай** адбыўся ў Мрангове. Удзел у ім прыняло дзевяць польскіх калектываў з Літвы, Беларусі і Украіны. На сцэне выступіла каля 400 чалавек, а на заканчэнне фестывалю сольны канцэрт даў **Чэслаў Немэн**.

У ліпені пачаліся **археалагічныя раскопкі** на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, якія вядуць супрацоўнікі Археалагічнага аддзялення Акруговага музея ў Беластоку. У Чорнай-Вялікай каля Сямяціч будуць даследаваны дзве стаянкі. Ужо ў пяцідзесятых гадах вяліся тут раскопкі на раннесярэдневяковым могільніку з магіламі ў каменных абкладах, які мог існаваць у XI—XIV стагоддзях. У XIX ст. вялі тут доследы расейскія археолагі.

Ад 10 ліпеня з-за рамонту моста на рацэ Свіслачы **закрыты кантрольна-прапускны пункт у Баброўніках**. Цяпер грузавым машынам, якія едуць на ўсход, дзяржаўную граніцу з Беларуссю трэба перасякаць у Кузніцы-Беластоцкай.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Купалле ў Бельску і Белавежы.
- Інтэрв'ю з Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхасём Слямнёвым.
- Ці будзе існаваць беларуская дзяржаўнасць, — разважае Сакрат Яновіч.
- Бізнес можна рабіць і ў цягніку.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Будзе менш бюракратаў

Распараджэннем прэзідэнта Беларусі з 1 ліпеня г.г. устаноўлена колькасць работнікаў міністэрстваў, цэнтральных органаў кіравання і абласной адміністрацыі. Абласным выканаўчым камітэтам прыйдзецца скараціць не менш 30% работнікаў. Найбольшым скарачэнням падлягаюць супрацоўнікі міністэрстваў унутраных спраў, абароны, адукацыі, будаўніцтва і архітэктуры, Галоўнага ўпраўлення пагранічных войск. У той жа час колькасць супрацоўнікаў Міністэрства замежных спраў павялічваецца з 190 на 210 чалавек.

### Нарада з нацменамі

У Кабінеце Міністраў пад старшынствам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча адбылося пасяджэнне Каардынацыйнага савета па справах нацыянальных меншасцей. У ім прынялі ўдзел кіраўнікі нацыянальна-культурных аб'яднанняў, міністэрстваў і намеснікаў старшынь аблвыканкамаў. Было заслухана паведамленне міністра адукацыі Васіля Стражава аб задавальненні адукацыйных запытаў нацыянальных меншасцей. Аб практыцы работы выканаўчых органаў з нацыянальна-культурнымі таварыствамі ў Гродзенскай вобласці расказаў намеснік старшыні аблвыканкама Мікалай Калацей. На пасяджэнні былі прыняты рашэнні наконт паляпшэння работы нацыянальна-культурных аб'яднанняў у рэспубліцы.

### Кракаўскі форум

У Кракаве прайшла традыцыйная канферэнцыя Арганізацыі аб'яднаных усходнееўрапейскіх фондаў „Нерухомасць”. Упершыню на гэты форум былі запрошаны прадстаўнікі Беларусі. Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі „Нерухомасць” Васіль Хрол і старшыня яе савета Кірыл Халопік выступілі за далейшае развіццё грамадскіх інстытутаў і ўдасканаленне прававых асноў у галіне гандлю нерухомасцю.

### Прафсаюзнае супрацоўніцтва

Па запрашэнні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў Менску пабывала з візітам старшыня Усяпольскага пагаднення прафсаюзаў Эва Спыхальская. Падчас візіту вяліся перамовы аб супрацоўніцтве з ФПБ і гутарка з прафсаюзным актывам.

### У памяць Купалы

Грамадскасць рэспублікі адзначала нядаўна дзень памяці народнага песняра Янкі Купалы. 53 гады таму (28 чэрвеня 1942 г.) у Маскве трагічна загінуў Янка Купала. У касцёле св. Роха на Залатой Горцы і ў Кальварыйскім касцёле адбыліся імшы па Купалу. Ля магілы Янкі Купалы на Вайсковых могілках сабраліся нашчадкі песняра, каб аддаць даніну павагі аднаму з найвыдатнейшых сыноў Бацькаўшчыны.

### Новы зборнік

„Зара над Шчарай” — так назвалі свой першы калектыўны зборнік літаратары са Слоніма. Патрэбна адзначыць, што мясцовае Аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі самае шматлікае ў рэгіёне і налічвае больш як дзесяць празаікаў і паэтаў. Нядаўна ў пісьменніцкі саюз прыняты яшчэ два літаратары: прадпрымальнік Іван Сяргейчык і пенсіянер Васіль Супрун. Яны выпусцілі першыя кнігі сваіх твораў, часта выступаюць на старонках раённай газеты.

### Салігорскія цэрквы

Свята-Пакроўская царква, што ў вёсцы Чыжэвічы Салігорскага раёна, адзначала сваё двухсотгоддзе. У 30-тыя гады, падчас ганення на Царкву, храм быў закрыты і пераабсталяваны ў збожжасховішча. Падчас II сусветнай вайны яго адкрылі і больш не закрывалі. А ў самім Салігорску летась каля бальніцы пабудавалі невялікі храм для правядзення абрадаў хрышчэння і вянчання. Сёння царква з цяжкасцямі прымае ўсіх вернікаў і таму ў цэнтры Салігорска асвечана месца, на якім будзе збудаваны новы праваслаўны храм.

### Фестываль з гумарам

У вёсках Малыя і Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага раёна прайшоў I Усебеларускі фестываль народнага гумару. Асноўным здарэннем гэтага мерапрыемства было тэатралізаванае прадстаўленне „Аўцюкоўцы смяюцца”, у якім прымалі ўдзел пераможцы рэспубліканскіх конкурсных праграм па розыгрышах, небыліцах, гумарэсках, жартах, загаворах, анекдотах, прыпеўках і жартоўных танцах. Праводзіўся таксама конкурс прыстойных і непрыстойных анекдотаў, а прымакі маглі спаборнічаць між сабою, расказваючы жарты пра цешчу. Галоўным прызам фестывалю быў конь. У якасці ўзнагарод былі яшчэ бычок, парася, курыца і сала (з чаго смяюцца аўцюкоўцы даведаецеся на 12 старонцы).

### Заве беспрацоўных поле

Працу, а не жабрацкую дапамогу, могуць зараз атрымаць многія наведвальнікі Пінскага гарадскога цэнтра занятасці. Штодзённа спецыяльныя аўтобусы дастаўляюць людзей у прыгарадныя гаспадаркі на нарыхтоўку сена і на праполку цукровых буракоў. Паслугамі беспрацоўных карыстаюцца таксама кансервавы завод і гандлёвае аб'яднанне па нарыхтоўцы гародніны.

# Найбольшая радасць — першы крык

З МАР'ЯЙ ДРОЗД гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.

*— Як гэта сталася, што выбралі вы прафесію акушэркі?*

— Пасля „падставоўкі" вучылася я ў ліцэі ў Міхалове. Калі была ў 9-м класе, прыехалі агітаваць у школу акушэрак, што ў Беластоку. Спадабалася мне уніформа акушэрак — шэры мундзір, фартушок, чапец. Ну і вабіла мяне сама ідэя: служба, дапамога чалавеку, ахвярнасць. Пасля двухгадовай навукі, у 1957 годзе скончыла я сваю школу і скіравалі мяне на працу ў Нараўку.

*— Самі захацелі ў Нараўку?*

— Хацела я працаваць на вёсцы; у горад не цягнула. Сама я з сялянскай сям'і таму адпавядала мне праца з вясковымі жанчынамі. 1 верасня 1957 года пачала я працу ў радзільным доме. У Нараўцы тады быў толькі фельчар Лушчынскі; медсясцёр не было. Радзільны дом месціўся тады ў тым будынку, дзе цяпер аптэка. Аснашчэнне было скромнае: пацыенткі прыносілі свае падушкі, бялізну, вопратку. Электрычнасці яшчэ не было, працавалі мы пры газавых лямпах. Разам са мною працавалі яшчэ дзве санітаркі (салёвыя). Час працы быў ненармаваны, трэба было аднак цэлы час быць у Нараўцы. Калі я выязджала, інфармавала аб гэтым хуткую дапамогу ў Гайнаўцы, а калі вярталася зноў інфармавала пра вяртанне. Жыла я спачатку ў пакойчыку пры радзільным доме, потым наймала, а пазней яшчэ дастала кватэру з гміны. Тэлефона на працы не было, званіла з пастарунка, што быў побач. Найбліжэйшы шпіталь у Гайнаўцы, у які даводзілася ездзіць і фурманкай, бо дарогі тады яшчэ добрай не было. Да родаў таксама прывозілі фурманкай, здаралася, што і радзіла жанчына на возе. Роды прымала я сама адна.

*— Як доўга апекаваліся вы парадзіхай?*

— Калі было ўсё добра, тыдзень пасля родаў жанчына вярталася дадому, калі былі складанасці, кіравала ў шпіталь. Спачатку то радзілі дома, пры бабках, у радзільны дом не хацелі ісці. І толькі як у загсе не хацелі такіх дзяцей запісваць, пачалі кіравацца да мяне. Была тут радзільная зала, зала парадзіх і нованароджаных, кухня. Восенню 1960 г. пасля рамонту будынка, у якім раней была гміна, перанёсся туды радзільны дом. Умовы там сталі нямнога лягчэйшыя — была ўжо электрычнасць, былі залы нованароджаных, парадзіх, радзільная, прыёмная, умывальня, прыбіральня. Было 5 ложкаў.

*— Хапала?*

— Бывалі і дастаўкі.

*— Якія здарэнні вам найбольш запаняталіся?*

— У красавіку, у разлівы, даставілі мне парадзіху з крывацёкам ад прыросшага пасведу. Карэта хуткай дапамогі застрагла ў лесе за Скупавам. Стан хворай хутка пагоршваўся. Рашыла я сама адклейваць пасвед. Адклеіла, даехала карэта і хворую ў цяжкім стане забралі ў Гайнаўку. Там далі кроў і адратавалі. Потым яшчэ тая жанчына радзіла.

Аднойчы пайшла я ў суботу ў кіно. З кінасеанса пазвалі мяне да родаў. Роды былі заўчасныя. Хуткая не хацела



прыехаць, бо адкуль я ведаю, што заўчасныя. Над раніцай нарадзілася дзіця. Сцвердзіла я, што яшчэ ёсць плод у папярочным размяшчэнні і зноў пазвала хуткую, а сама прыступіла да ўнутранага абароту. Зрабіла абарот. Прыехаў Рачкоўскі, забраў у шпіталь. Усё кончылася добра.

Зімою прыехалі санямі з Ляўкова і забралі мяне да родаў. Жанчына нарадзіла адно і аставаўся яшчэ адзін плод. Пры лямпе зрабілі ложак з крэслаў і ўрадзіла. Забрала я яе ў радзільны дом, бо ў шпіталь не хацела.

То зноў везлі жанчыну з Ахрымоў, таксама зімою. Не ўспелі давезці, нарадзіла ў дарозе. Дзіця аж пасінела ад холаду.

У красавіку прывезлі жанчыну да родаў. Адпала пупавіна. Адвяла пупавіну і, трымаючы за галоўку, давезлі да шпіталя, адразу ў аперацыйную залу. Удалося выратаваць дзіця.

Таксама 1 студзеня, у завіруху, прывезлі жанчыну да родаў. І таксама выпала пупавіна. Хуткая не магла даехаць. Я ўжо арганізавала транспарт „Жукам". Але і хуткая была ўжо ў Свінароях. Завезлі адразу на аперацыйную залу і дзіця ўратавалі.

Або ў навагоднюю ноч хуткая не магла даехаць у Гушчэвіну. Прывезлі жанчыну ў асяродак здароўя ў Нараўку „газікам" з надлясніцтва і тут ужо пераняла іх хуткая.

*— А ці бывалі нейкія непрыемныя сітуацыі?*

Радзіла дзеўка. Бацькі адракліся ад яе. Завезла я яе аўтобусам у Дзіцячы дом у Беласток, на Варшаўскую. Крычалі на мяне, чаму аўтобусам, а не карэтай, машыны я аднак тады не дастала. Потым бацькі дзяўчыну прынялі дадому, аднак без дзіцяці.

Зноў у адной дзяўчыны зімою пасля цяжарнасці не было дзіцяці. Нават міліцыя пайшла шукаць, але не знайшла. Яна гаварыла, што дзіцяці няма. Потым дзіця аб'явілася. Пасля паўгадовых фармальнасцей забралі яго ў Дзіцячы дом. Маці ездзіла, адведвала дзіця, потым удалося ёй стаць на працу, уладкавацца і забраць дзіця да сябе.

Аднойчы пасля родаў парадзіху забралі ў шпіталь у Гайнаўку. А муж прыехаў і пытае якога колеру валасы ў дзіцяці. Чорныя, кажу, кожны нованароджаны мае чорныя, бо мокрыя.

*— Ці здараліся нейкія няшчасці пасля родаў?*

— Смерцяў маці не было. Здарыліся толькі два мёртвыя плады з абумерлай цяжарнасці.

*— І многа родаў вы прынялі?*

— У першыя гады было па 80—85, а ўсяго то каля 1300. Тутэйшая моладзь гэта мае "ўнукі".

*— Якую тэрыторыю вы абслугоўвалі?*

— Тэрыторыю цяперашняй Нараўчанскай гміны.

*— Можа былі такія жанчыны, што прыязджалі звонку, каб радзіць у вас?*

— Былі, асабліва тыя, якія адсюль выйшлі. Адна ўраджэнка Міклашэва прыехала аж з Варшавы, каб у мяне радзіць.

*— Цяпер родзяць у шпіталях.*

— У маі 1975 года распусцілі радзільныя дамы і пасля 18 гадоў перастала я прымаць роды, стала раённай акушэркай. Маёй задачай была прафілактыка і апека над нованароджанымі, парадзіхамі і цяжарнымі. На другі дзень пасля выпісу са шпіталя наведвала я парадзіху і павучала як даглядаць дзіця: як купаць, перавіваць і карміць. Спярша даязджала аўтобусамі, а куды аўтобус не ездзіў, хадзіла пяшком. Потым на візіты ездзіла машынай. Адзін дзень у тыдні прымала цяжарныя жанчыны ў Семяноўцы, адзін дзень у Ляўкове і адзін дзень у Нараўцы ў амбулаторыі „К". Калі з маці і дзіцём было ўсё ў парадку, то на трэцім тыдні павучала, як даваць вітаміны ($D_3$) і сокі. Апошні візіт наносіла ў шостым тыдні жыцця. Калі былі складанасці, адпаранні, высыпка, захаваная пупавіна ці занядбанае асяроддзе, прыходзіла кожныя 2—3 дні.

*— А з цяжарнымі жанчынамі то што вы рабілі?*

— Я старалася як раней заняцца цяжарнай жанчынай і накіраваць яе ў амбулаторыю „К" ці на дадатковыя аналізы крыві і мачы. Калі было нешта не так, кіравала і ў шпіталь і дапільноўвала, каб пацыентка туды ставілася. Большасць маіх прагнозаў у шпіталі апраўдваліся. Спачатку жанчыны супраціўляліся, але потым, калі я іх находзіла і находзіла, ішлі на праверку. І выходзіла потым так, што калі былі зроблены ўсе аналізы, то і клопатаў з родамі было менш. Даўней жанчыны баяліся ісці да лекара, трэба было іх пераконваць і то далікатна, каб у нічым не прагаварыцца і не заўпарціць. Часам то патрэбная была і даўжэйшая гутарка, каб знайсці супольную мову. І так аж да адыходу на пенсію ў красавіку 1994 года.

*— Як да вас ставяцца вашы даўнія падапечныя?*

— Калі сустрэнемся, то сардэчна паўспамінаем мінулае. Асабліва старэйшыя, што радзілі ў радзільным доме, цёпла ўспамінаюць сваю ў ім пабыўку. А і многія іх дзеці маюць свядомасць, што прымала я іх на свет.

*— А як ставілася да вас начальства?*

— Ні з начальствам, ні з пацыентамі не мела я ніякіх праблемаў. У пачатку 70-х гадоў атрымала я ўзнагароду 2500 злотаў ад ваяводскага лекара за ўтрыманне родаў з адпадзенай пупавінай. Многа дыпломаў атрымала, а таксама медаль „За заслугі для аховы здароўя" і адзнаку „Заслужаны Беласточчыне".

*— Ці не шкадуеце вы свайго выбару? Ці каб вам цяпер прыйшлося выбіраць прафесію, выбралі б іншую?*

— Не, не памяняла б свайго выбару. Я ахвотна пайшла б на працу ў радзільны дом або ў шпіталь. Калі было многа родаў, я была шчаслівая, адчувала сябе патрэбнай для людзей. Калі родаў было мала, адчувала я сябе загубленай, находзіў на мяне сум. А найбольшую радасць прыносіў мне першы крык дзіцяці і від шчаслівай маці.

*— Дзякую за размову.*

# Сямейныя слёзы

Ася разам з сябрамі паехала на рэчку. У зваротнай дарозе сустрэла яе маці. Трэслася ад злосці.

— Хто табе, к..., дазволіў шляцца за маімі вачыма, — ухапіла яна дачку за валасы і павалакла ў сваю „Ладу".

У С. (вёсцы) прывітаў іх п'янай лаянкай айчым Асі. „Або цябе заб'ю, або перараблю", — кінуўся на дзяўчыну з кулакамі. Па загаду жонкі звязаў ёй рукі старымі калготкамі і біў па галаве. Маці, трымаючы ў руках нажніцы для стрыжкі авечак, крычала, што калі яе абстрыжа, тады і яна сама адрачэцца кампаніі. Дашчэнту абрэзала Асі доўгія, цёмныя, кучаравыя валасы. Пасля замкнулі 17-гадовую дачку ў цёмным і смярдзючым хляве.

— Да канца канікул там сядзець будзеш, тады ўспомніш, хто табе жэрці дае, — і ўключылі на ўвесь двор музыку.

*(паводле судовых запісак)*

* * *

Жоўты будынак з кратамі ў вокнах. Панадворак парослы крапівой і пустазеллем. У В. (што каля Бельска) не любяць гаварыць пра сям'ю Зіны.

— А..., мурзы, — паўтараюць з пачуццём перавагі ў голасе. — Пойдзеш, за дзяцьмі заступішся, то цябе к... абкінуць, — наракаюць суседзі. Паводле іх яшчэ не раз і не два сям'я будзе біцца ды мірыцца. Цяпер пасля суду быццам суцішыліся. Жывуць у падзеленай хаце. Часта паліцыя да іх прыязджае. Два гады паліцэйскага нагляду прысудзілі. Адна суседка пачула, як паліцэйскія гаварылі, выйшаўшы з хаты: „Ta Zina to już krok od Choroszczy". Вярнулася толькі што са шпіталя. Пасля судовай валакіты захварэла. Не верыла, што справу выйграюць дзеці. Рабіла што магла, каб ратаваць хатнюю маёмасць.

— Выносілі з хаты золата, водку, наркатызаваліся, валачыліся па начах, — абвінавачвае дочкі. Паводле яе з хаты прапала тры кілаграмы золата і паўсотні бутэлек гарэлкі. Таму зразумела, чаму краты паявіліся у вокнах і дзвярах.

— Пакуль жыла іхняя бабка ўсё было як у людзей. Яна даглядала дзяцей, варыла ім яду, адзявала, вадзіла ў царкву. А калі яна памерла, маці рашыла выхаваць дочкі па-свойму. А што пра золата гаворыць гэта ёй ужо ў галаву заходзіць, — гаварылі людзі.

* * *

— Гэта не дзеці, а проста золата, — пачала маладая кабета, — іншыя за той здзек зусім такіх бацькоў адракліся б. Вы чулі, як дзяўчаты жылі пад „фоліяй"?

—Два тыдні там мерзлі. Па людзях за ядой хадзілі. Разам была і 8-гадовая Марыся. І тую марыць хацелі. Лепш бы такіх бацькоў ў псіхушцы трымаць, як яшчэ з імі судзіцца.

— Яна не любіла Асі. Не раз выганяла яе з хаты. Аська час ад часу жыла на гарышчы ў гаспадарчым будынку. А маці паехала да яе ў школу і пачала плакаць перад настаўнікамі, што дачка наркаманка, к..., алкагалічка, што тыднямі ў хаце не начуе.

— Усё выглядала, як нейкая планавая акцыя, — успаміна̄ла блізкая сяброўка Асі.

— Трэба гэтую к... замкнуць у „папраўчаку", — даказывала настаўнікам Зіна Х.

У школе пра Асю нічога такога не чулі. Зусім наадварот, сціплая, маўклівая вучаніца. Дасталася і 19-гадовай ліцэістцы Олі. Настаўнікі і тут здзівіліся, бо дзяўчына была выдатніцай.

Да канца судовай справы страшылі дзяўчат. Як заявіў айчым, калі справу дзяўчаты прайграюць, то „будуць трупамі".

— То я на вас гараваў, прадаваў бычкі, даваў грошы, усё давозіў, а цяпер паказалі мяне па тэлебачанні і па радыё аж валасы дыбам становяцца, — жаліўся Гаўрыла з С., пяцідзесяцігадовы земляроб, няшлюбны муж Зіны Х.

* * *

— Багатыя. Двухпавярховы мураваны дом, самаход, прыватная крама ў вёсцы айчыма, гаспадарка, — развалілі ў В.

Зіна ў іхняй мясціне жыла ад нядаўна. Прыехала сюды з глухога хутара. У дзяцінстве і маладосці цяжка працавала. Вучылася ў сярэдняй школе. Першае сужонства трывала нядоўга. У 22 гады асталася адна з двумя дзяцьмі і маці. Старалася. Штораз за мяжу на гандаль ездзіла, выстойвала на базары. Пазней у яе жыцці з'явіўся Гаўрыла. Народжаную дачушку запісала на бацькавае прозвішча. Пазней былі частыя п'янствы. Балела галава.

Пра свайго бацьку Зіна ніколі не чула. Заўсёды, калі пыталася пра яго, маці збянтэжана паўтарала, што памёр. Праўда была намнога страшнейшая. Не здзіўляла старую асабліва тое, калі Зіна выганяла яе і свае дзеці начаваць у падвал, калі іх лаяла і кідала аб зямлю гаршкамі з гарачаю ядою. Бацька Зіны, прыступа, павесіў маці, маладую жонку. З пятлі зняў яе сусед-кавалер, які выпадкова падглядаў маладое сужонства. Праз чатыры месяцы нарадзілася Зіна. Зусім падобная на бацьку як дзве кроплі вады.

**Г. Кандрацюк**

P.S. *Імёны і назвы мясцовасцей зменены.*

 

# СТРАХ

Ноч. Простую як страла алімпійскую магістраль Менск — Берасце каля Баранавіч перагароджвае міліцэйскі пост. Шлагбаўмы, кінутая ўпоперак дарогі калючка, побач будкі гаішнікаў бронетранспарцёр з буйнакаліберными кулямётамі. Малады міліцыянт загадвае мне, як вадзіцелю, пакінуць машыну і пайсці ў будынак зарэгістравацца. Кірунак указвае здаровай дубінкай. Усярэдзіне двух афіцэраў і нейкі чалавек, якога ўжо, відаць, запісалі, бо збіраецца выходзіць. Я даю „добры вечар" і падыходжу да свабоднага афіцэра. Чакаю, пакуль ён скончыць размову па тэлефоне ці па рацы. Бярэ ён мае дакументы і запісвае ў тоўсты блакнот нумары машыны, вадзіцельскіх правоў. Пытае, скуль і куды еду. Я нахіляюся, каб дапамагчы яму разабрацца ў лацінскіх літарах і толькі цяпер заўважаю, што ў яго на грудзях нешта гойдаецца. Тое нешта, гэта... нацэлены мне ў жывот калашнікаў. Ногі становяцца мяккаватымі, у горле робіцца суха і язык неяк не паварочваецца, каб спытаць, ці не баяцца яны нешчаслівага выпадку. (Калі ўлічыць, што кожны пісталет раз страляе сам па сабе).

Другі раз спісваюць каля Слоніма. Калі спыняюць трэці раз, ля Ружан, кажу, што ўжо мяне два разы дзе трэба зарэгістравалі. Міліцыянт смяецца: „Гэта будзе ўжо апошні. Далей паедзеце без кантролю аж да самай мяжы". Так яно і было.

Калі едзеш па дарогах Беларусі, складаецца ўражанне усеабдымнага страху. Загароды, аўтаматчыкі, загад затрымацца ўсім машынам пад рад не характэрныя мірнаму часу. Пры тым усім, чым бліжэй Менска, тым гэты страх мацнее, тым пастоў больш. Са сталіцы Беларусі не выедзеце ў ніводным напрамку, каб не было такога ваенізіраванага міліцыйнага паста. Удзень, праўда, кантралююць не ўсіх, але ноччу, калі меркаваць па маім асабістым вопыце, дык заносяць у спісак усіх падарожных.

Апагей страху каля прэзідэнцкага палаца (раней сядзіба ЦК КПБ). Зараз за тэатрам Янкі Купалы на тратуарах з усіх бакоў пастаўлены дошкі, якія папярэджваюць на расейскай мове (всемирной, чтобы и негру было известно), што падыход да будынка строга забаронены. У вартаўнікоў такі выгляд, што паспешна канчаю прыглядацца мусульманскаму сцягу над будынкам і шэрай пляме ў кшталце шчыта на яго сцяне.

* * *

На адным з пастоў пытаюся ў міліцыянта, чаму такі строгі кантроль, гэта ваеннае палажэнне, ці што?

— Э, не, — пачуў у адказ, — нармальна. Ноч.

**Мікола Ваўранюк**

# ЦЭНТРСАЮЗ

Так у скарачэнні называлася арганізацыя, якую ў 1930 г. стварылі ў Вільні выдатныя беларускія дзеячы Антон Луцкевіч і Радаслаў Астроўскі. Поўная яе назва гучала: Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый. Лідэры Цэнтрсаюза раней былі членамі Грамады. Радаслаў Астроўскі нават пару месяцаў прасядзеў у польскіх турмах за грамадоўскую актыўнасць. Луцкевіч толькі па нацыянальных прычынах супрацоўнічаў з партыяй Тарашкевіча. З увагі на ўплывы камуністаў у грамадоўскім руху не быў ён нават фармальна членам гэтай арганізацыі. Антон Луцкевіч быў затое перакананы, што ліквідацыя Грамады і паліцыйныя рэпрэсіі нанесеныя супраць беларускага руху былі вынікам падпарадкавання яе лідэраў кіраўніцтву КПЗБ. Верыў ён, што ўсе беларускія палітычныя, культурныя, асветніцкія і эканамічныя мэты можна рэалізаваць у рамках заканадаўства польскай дзяржавы.

Пры падтрымцы адміністрацыі Луцкевіч і Астроўскі ў 1930 г. выдаваць часопіс „Напрад", а пасля „Беларускі Звон". Неўзабаве ў беларускім асяроддзі Цэнтрсаюз быў названы арганізацыяй „нацыянал-фашыстаў", „беларускай санацыі", „паланафілаў" і „здраднікаў" — у залежнасці ад таго, хто браў голас у дыскусіі. Адказваючы на гэтыя закіды на старонках „Беларускага Звону", Луцкевіч так тлумачыў свае меркаванні: „Такое акрэсленне маёй асобы гэта абвінавачанне ў адсутнасці асабістай і нацыянальнай годнасці, а таксама палітычнага інстынкту".

Цэнтрсаюз адмовіўся ад палітычнай барацьбы, хаця выразна выказваўся за незалежную аб'яднаную беларускую дзяржаўнасць. Каб дайсці да сваёй дзяржавы — паводле Луцкевіча — трэба было спярша падрыхтаваць да гэтага народ. Таму Цэнтрсаюз прапагандаваў усе формы дзейнасці, якія вялі да развіцця культуры, гаспадаркі, асветы, як падставы нацыянальнага адраджэння. Галоўным канкурэнтам у змаганні за беларускія душы дзеячы Цэнтрсаюза лічылі камуністаў, якія вялі пастаянную барацьбу з усім, што вяло да развіцця нацыянальнай свядомасці, а культурна-асветніцкую працу накіравалі ў напрамку ўнутранага канфлікту, рэалізуючы сваю шалёную тэорыю „класавай барацьбы". „У выніку дывэрсійнай дзейнасці камуністаў, беларускае грамадства, гатовае ахвярна служыць нацыянальнай справе, апынулася ў стане летаргіі і маральнага падзення. Такая сітуацыя прымусіла аб'яднацца культурным і гаспадарчым арганізацыям дзеля працы для нацыянальнага і маральнага адраджэння беларускіх мас", — пісалася ў справаздачы Галоўнай рады Цэнтрсаюза ад 27 снежня 1931 г.

Дзеячы арганізацыі займаліся стварэннем сеткі бібліятэк для вясковага чытача. З думкай пра гэтае асяроддзе пачалі нават у 1932 г. друкаваць цыкл кніжак азагалоўлены „Сялянская бібліятэка". Змест гэтай літаратуры быў прыстасаваны да інтэлектуальнага ўзроўню чытача. Перш за ўсё былі гэта гаспадарчыя парады і найбольш простае тлумачэнне гісторыі і культуры.

Восенню 1931 г. Луцкевіч і Астроўскі заснавалі ў Вільні Царкоўны камітэт, які, супрацоўнічаючы з рэктарам Віленскай праваслаўнай семінарыі Тучэнскім, пачаў дамагацца беларусізацыі царкоўнага жыцця. У 1932 г. дзеячы Цэнтрсаюза сарганізавалі Таварыства беларускай асветы і пачалі выдаваць тыднёвік „Родны Край". З Луцкевічам супрацоўнічала таксама частка студэнцкага асяроддзя, аб'яднанага ў Саюзе беларускіх студэнтаў, які існаваў пры Віленскім універсітэце.

Арганізацыйная і выдавецкая дзейнасць Луцкевіча і Астроўскага была проста захапляючая, аднак пазбаўленая шырэйшай грамадскай падтрымкі. Цэнтрсаюз як антысавецкая, антыкамуністычная і лаяльная ў адносінах да польскай дзяржавы арганізапцыя, атрымліваў на сваю дзейнасць грошы з бюджэту мясцовай адміністрацыі. Не абазначае гэта, што Цэнтрсаюз быў нейкім агентурным творам у беларускім асяроддзі. Пра пункт гледжання Луцкевіча на справу беларускай дзяржаўнасці ўжо згадвалася. Астроўскі выказваўся больш радыкальна — пратэставаў супраць польскага асадніцтва на беларускіх землях, супраць паланізацыі і гвалтаў з боку дзяржаўных улад, дамагаўся роўнага трактавання ўсіх грамадзян Рэчы Паспалітай, будучыню беларусаў бачыў толькі ў аб'яднанай дзяржаве. Падчас нямецкай акупацыі прабаваў ён будаваць Беларусь, шукаючы падтрымку ў немцаў. Абыякавасць грамадства да нацыянальных спраў вяла беларускіх палітыкаў да дзіўных кампрамісаў, часам да шаленства. Антон Луцкевіч у 1939 г. пайшоў вітаць саветаў, дэманструючы ўдзячнасць за аб'яднанне беларускай зямлі. Расстралялі яго ў 1940 г. як беларускага нацыяналіста, буржуазнага палітыка і класавага ворага. А бедны народ, адкінуўшы „нацыяналістычныя" ідэі Луцкевіча, служыў усім акупантам, якія тапталі беларускую зямлю.

**Яўген Мірановіч**

# Візітная картачка Гайнаўкі

„Гайнаўка" — проста так называецца нядаўна выдадзены рэкламны буклет пра горад на ўскраіне Белавежскай пушчы.

Горад горадам, але ўсё ж такі не абысціся яму без гэтай цудоўнай пушчанскай прыроды, для якой ён, хочаш не хочаш, стварае дзесяткамі гадоў вялікую пагрозу. Пушча — гэта яго козыр! Вось ужо на вокладцы буклета, замест нейкага здымка гарадской панарамы, маем калаж, састаўлены з зубра і тарпанападобных конікаў, змешчаных на фоне вялікага дрэва (дуба?) і ледзь-ледзь пазначанай на гарызонце сцяны лесу. А ў вугле вокладкі красуецца герб горада — чатыры хвойкі падрэзаныя пілой. Як жа трапнае адлюстраванне Гайнаўкі!

На пушчу, як галоўны козыр горада, намякаюць аўтары буклета таксама ў прывітальным слове. Далей падаецца коратка гісторыя мясцовасці, інфармацыя пра тое, што варта паглядзець у горадзе і ваколіцы (згадваецца нават Музей беларускай культуры!). Ёсць і інфармацыі аб насельніцтве (палякі, беларусы і... украінцы!), прамысловасці, паслугах, гандлі. Асобныя радкі прысвячаюцца спорту, турызму, рэкрэацыі, асвеце і культуры. Наканец падаюцца практычныя інфармацыі. Некалькі апошніх старонак займаюць рэкламныя аб'явы мясцовых фірмаў, прадпрымстваў. Усе тэксты пададзены паралельна на польскай, англійскай і нямецкай мовах.

Буклет, вядома, праілюстраваны шматлікімі каляровымі здымкамі аўтарства Г. Акалова, А. Болбата, А. Кэчыньскага, Е. Схабоўскага, таксама архіўнымі фатаграфіямі. Вядома, знайшлося месца і на план горада, а нават на рэкламны каляндарчык выдаўца гэтай публікацыі — цывільнай суполкі „Сыстэм Пэрфэкт" з Быдгашчы.

Наогул буклет добра рэкламуе горад. Ім могуць пакарыстацца не толькі патэнцыяльныя інвестары, але ўсе, хто тут апынецца: госці, турысты, праезджыя.

**Пётр Байко**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### „Вызваленне"

Салдаты Чырвонай Арміі тлумачылі сялянам, што прыйшлі вызваліць беларускі народ ад польскага прыгнёту. Жыхары вёсак, асабліва моладзь, шчыра віталі чырвонаармейцаў. У старэйшых людзей ад радасці і ўзрушэння паявіліся слёзы на вачах.

На трэці або чацвёрты дзень у вёсцы з'явіліся ваенныя палітрукі і з гэтага моманту пачалася падрыхтоўка да выбараў новай сялянскай улады — саветаў. Агітавалі яны, каб у саветы выбіраць найбяднейшых, беззямельных сялян, самі вылучалі кандыдатаў у дэпутаты і загадзя гаварылі, што калі хто не будзе галасаваць на пастаўленых кандыдатаў, дык іх палічаць ворагамі народнай улады.

У нашай вёсцы старшынёю (председателем) сельскага савета быў выбраны Пятро Пракаповіч сын Вінцэся — зусім непісьменны чалавек. А ягоным намеснікам стаў беззямельны і непісьменны Якуб Дзяніс.

Палітрукі сталі намаўляць бедных сялян расправіцца з кулакамі і памешчыкамі. Беззямельныя мужыкі, заахвочаныя прадстаўнікамі савецкай улады, сталі грабіць багатых аднавяскоўцаў і ўладальнікаў навакольных маёнткаў. Забіралі ў іх жывёлу, вуллі з пчоламі, зерне, неабмалочаныя снапы, дзялілі зямлю, а нярэдка збівалі баронячых свае дабро гаспадароў. Напрыклад, жыхары Задвор'я аграбілі і пабілі Гераніма Арцюха, а сяляне са Слабады забралі нават вопратку жонкі ляснічага Махажыньскага. Беззямельныя мужыкі з Кучкуноў, Яблынькі і Баханоў спляжылі маёнтак Вацлава Юдыцкага, які некалі належаў маім продкам. Грабяжы праводзіліся паўсюдна, хаця і пад бачным і спрыяючым наглядам савецкіх палітрукоў. Падчас рабункаў даходзіла да абсурдных сцэн. Напрыклад, адзін з грабежнікаў не меў у што набраць яблыкаў з саду Гераніма Арцюха, дык абламаў галіну, узяў яе на плячо і панёс дахаты, губляючы яблыкі па дарозе.

У тым жа часе праводзіліся арышты асоб, якія займалі пасады ў польскіх установах. Паўсюдна арыштавалі вайсковых асаднікаў, афіцэраў, войтаў ды сакратароў гмінных управаў. Арыштаваны быў таксама пасол у Сейм Януш Крупскі — памешчык з вёскі Засулле.

Летам 1940 года ў вёску сталі прыязджаць агітатары і намаўляць сялян запісацца ў калгас. Вяскоўцы да такой прапановы ставіліся абыякава — ніхто не пажадаў арганізаваць калектыўнае гаспадарства. Але з той пары ў вясковым грамадстве пасялілася трывожнасць, няпэўнасць заўтрашняга дня. Органы НКУС штораз часцей арыштавалі кагосьці і цэлымі сем'ямі вывозілі ў глыб Савецкага Саюза. Усе ўспаміналі жудасны лютаўскі дзень 1940 года, калі ў вялікі мароз вывезлі сем'і леснікоў і вайсковых асаднікаў.

Мой бацька пачаў скрывацца, бо калісьці працаваў леснікам і прымаў удзел у слуцкім паўстанні, а такіх лічылі ворагамі народа. Нейкі час жыў ён у сваяка ў Івацэвічах і працаваў у тартаку, потым хаваўся ў Кругліцы і Рубяжэвічах. Дадому прыходзіў рэдка.

Калі арыштавалі былога загадчыка школы Венядзікта Кацапуна, майго хроснага бацьку, бацькам стала ясна, што і ім не пазбегнуць такога ж лёсу. Маці стала рыхтаваць мяшкі з сухарамі, а бацька, калі і наведваў нас, дык не начаваў дома, але ў прыхільных нам людзей.

Побач вёскі сталі будаваць аўтастраду Масква—Берлін. Працавалі нават ноччу. Рабілі там вязні, якіх кватаравалі ў былых польскіх казармах у Стоўбцах і Коласаве. Да работы заганялі таксама навакольных сялян з падводамі.

19—20 чэрвеня 1941 г. органы НКУС зноў арыштавалі шмат людзей. Загружаныя „ворагамі народа" цягнікі сталі на чыгуначнай станцыі ў Стоўбцах, збіраючыся везці невінаватых людзей у сібірскую глухамань.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**



 

# Мялецій Андзілеўка — беларус ці паляк?

Паводле міжнародных узгадненняў, якія праўдападобна будуць уключаны ў польскую юрыдычную сістэму, сваю уласную нацыянальнасць можа суб'ектыўна вызначыць сам грамадзянін. Гэта вынік тэарэтычна-ліберальнага стаўлення да свабоды чалавека і ў нашай рэчаіснасці можа яно давесці да грані абсурду, паколькі ў залежнасці ад сітуацыі раз можна будзе назваць сябе беларусам, іншы раз — палякам, а пры яшчэ іншых умовах, напрыклад, эскімосам. Такая адвольнасць можа здарыцца асабліва на Беласточчыне, а такое меркаванне мае моцнае падмацаванне ў існуючым вопыце.

Мялецій Андзілеўка нарадзіўся 22 чэрвеня 1913 г. у вёсцы Дубоўка ў гміне Лужкі Віленскай губерні. Яго бацька Васіль і маці Агафія Грыдзюшка мелі пяцігектарную гаспадарку. Вучыўся ён спачатку ў пачатковай школе ў мястэчку Лужкі, потым у гімназіі ў Дзісне, якую закончыў у 1934 г. Пасля атрымання атэстата сталасці паступіў ва Універсітэт Стэфана Баторыя ў Вільні, дзе штудзіраваў класічную філалогію. На навуку зарабляў рэпетытарствам. З верасня 1939 г. да чэрвеня 1941 г. працаваў настаўнікам у савецкай школе ў Глыбокім. Быў тады „актывістам" Прафсаюза школьных работнікаў. Пасля агрэсіі фашысцкай Нямеччыны на Савецкі Саюз пераехаў у Беласток, дзе жыла яго жонка Галіна (дзявочае прозвішча Цэрс). З ліпеня да кастрычніка 1942 г. працаваў ён у нямецкай установе пасрэдніцтва працы — арбайтсамце. Адмовіўся, аднак, ад гэтага занятку, пакінуў таксама жонку і Беласток ды пераехаў на Віленшчыну і са студзеня 1943 г. стаў працаваць настаўнікам у беларускай настаўніцкай прагімназіі ў Глыбокім (або ў Паставах). У красавіку 1944 г. вярнуўся ў Беласток, а здарылася гэта пасля таго, як немцы забілі яго трох братоў. „Засеўшы дома", паводле слоў М. Андзілеўкі, праседзеў так да канца ліпеня 1944 г., калі — пасля адыходу немцаў — на Беласточчыну ўступіла Савецкая Армія. Інакш аднак, мабыць, гэты перыяд апісвае характарыстыка М. Андзілеўкі, састаўленая 6 кастрычніка 1949 г. у Ваяводскай установе публічнай бяспекі (ВУПБ) у Беластоку, у якой сцвярджаецца: „... будучы ўвесдзеным у канспіратыўную арганізацыю АК на тэрыторыі г. Беластока праз пасрэдніцтва аднаго з членаў гэтай арганізацыі, які працаваў у камсенным кар'еры (пры Жалтоўскай шашы), дзе Андзілеўка быў камендантам каравульнай службы, якая вартавала працуючых там савецкіх ваеннапалонных. Менавіта члены гэтай арганізацыі, дзякуючы кантактам з партызанкай, зрабілі магчымым уцёкі палонным з лагера і наладзілі сувязь з групай лясного атрада. Пасля азнаямлення Андзілеўкі з дзейнасцю АК, адбыўся правал арганізацыі, аднак Андзілеўку па невядомых прычынах гестапа не затрымала". Столькі піша дзяржбяспека, якая карысталася паведамленнямі тайных даносчыкаў. Ці гэты сцвярджэнні сапраўдныя?

Сапраўды, з канца ліпеня 1941 г. да ліпеня 1944 г. пры Жалтоўскай шашы (каля цяперашняй вуліцы Перамогі — Zwycięstwa) размяшчаўся часовы нямецкі лагер, да якога перш за ўсё арбайтсамты кіравалі цывільнае насельніцтва з Беластока і наваколля. Пасля кароткатэрміновага прабывання ў лагеры, зняволеных перапраўлялі ў III Рэйх на прымусовыя работы. Мялецій Андзілеўка працаваў у арбайтсамце ў 1942 г., але — як адзначыў у біяграфіі — як „служачы". Не высвятляе гэта поўнасцю сцвярджэнняў органаў дзяржбяспекі, якія можна будзе дакладна вывучыць толькі пасля рассакрэчання архіўных матэрыялаў былога ВУПБ (цяпер знаходзяцца яны ў сённяшнім архіве УОП — Установы аховы дзяржавы). А можа жывуць яшчэ сведкі гэтых здарэнняў?

У жніўні 1944 г. М. Андзілеўка з'явіўся ў арганізаванай тады Куратарыі Беластоцкай школьнай акругі і на працягу трох месяцаў служыў „рэферэнтам сярэдніх меншасных школ" (г.зн. беларускіх, бо толькі такія тады працавалі). З Куратарыі яго перавялі (быў прызваны?) у Савецкую Армію, а ў 1945 г. яго часць, ваенны шпіталь, передалі ў польскае камандаванне і такім чынам стаў ён жаўнерам Войска Польскага. 14 верасня М. Андзілеўку прынялі ў рады Польскай рабочай партыі (паводле даты з пратакола Партыйнай камісіі), але часовы партбілет далі яму ўжо 20 красавіка 1945 г. У войску быў настаўнікам польскай мовы і загадчыкам шпітальнай бібліятэкі. Пасля дэмабілізацыі, з кастрычніка 1945 г. да лютага 1946 г., працаваў у Ваяводскай управе ў Беластоку, а затым — да верасня 1949 г. — быў старшынёю беластоцкага прадстаўніцтва Спецыяльнай камісіі па барацьбе з гаспадарчым злоўжываннем і шкодніцтвам. Як не дзіўна, гэтая ўстанова мела падобны характар як і арбайтсамты — высылала людзей без судовага прыгавору ў працоўныя лагеры.

З ліпеня 1949 г. на Беласточчыне пачалі аднаўляць ліквідаванае некалькі гадоў таму беларускае школьніцтва. Бюро Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку 9 жніўня вырашыла назначыць М. Андзілеўку інспектарам (візітатарам) беларускіх школ у Куратарыі. На жаль, у дакументах няма абгрунтавання, чаму партыйныя ўлады на гэтую пасаду прызначылі старшыню беластоцкай Спецыяльнай камісіі. Відаць, адбывалася гэта без ведама самога зацікаўленага, бо М. Андзілеўка адкінуў гэтую прапанову. Непаслушэнства магло стаць прычынай таго, што ў кастрычніку 1949 г. перавялі яго на працу ў Ваяводскую ўправу ў Беластоку.

31 студзеня 1975 г. М. Андзілеўка перайшоў на пенсію. Памёр 26 жніўня 1980 г.

У анкеце для кандыдатаў у Польскую рабочую партыю, якую запоўніў ён 17 жніўня 1945 г., М. Андзілеўка напісаў, што ён беларускай нацыянальнасці, але напісаў таксама, што родная мова ў яго — польская (да вядомых яму чужых моў прылічыў рускую і нямецкую). Запаўняючы падобную анкету 12 студзеня 1947 г. сваю нацыянальнасць акрэсліў як польскую і роднай мовай таксама назваў польскую (да чужых моў прылічыў рускую, нямецкую і... беларускую). Хто такі М. Андзілеўка па нацыянальнасці?

Дзіцячыя гады М. Андзілеўка правёў напэўна ў беларускім асяроддзі і, мабыць, праваслаўным — паказваюць на гэта імёны: Мялецій, Васіль, Агафія. У гімназіі ў Дзісне вывучаў беларускую літаратурную мову. Пры нямецкай акупацыі працаваў у беларускай школе, пасля вызвалення ў Куратарыі ў Беластоку стаў першым інспектарам беларускіх школ. Беларускасць М. Андзілеўкі была заўважана ў 1949 г., калі разглядалася яго вяртанне на пасаду візітатара.

Неабходна, аднак, заменціць характэрны момант у біяграфіі М. Андзілеўкі, які хіба паўплываў на тое, што змяніў ён вызначэнне сваёй нацыянальнасці. Гэтым момантам стала залічэнне яго ў 1946 г. на пасаду старшыні Спецыяльнай камісіі. Гэты факт супаў з публічнай заявай беластоцкага ваяводы С. Дыбоўскага, што Польшча — гэта аднанацыянальная дзяржава і беларусы ў сувязі з гэтым не могуць мець роўных правоў, такіх, якія маюць палякі. М. Андзілеўку трэба было зрабіць выбар паміж чалавечай годнасцю і прафесійнай кар'ерай. Выбраў ён, аднак, гэтае другое — кар'еру ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

**Славамір Іванюк**

Organizacja partyjna, do której wpłynął kwestionariusz ..........

.......... powiat, miasto .......... Województwo ..........

1. Nazwisko *Andzilewko* imię *Milecjusz* imię ojca *Bazyli*
2. Pseudonimy *nie ma*
3. Płeć *męska* 4. Data urodzenia *22.6.1913* 5. Narodowość *białoruska*
6. Język ojczysty *polski*
7. Miejsce urodzenia *Dubówka, pow. Dzisna, woj. Wilno*
8. Kiedy wstąpił do PPR i jakie funkcje pełnił *teraz wstępuję po raz pierwszy*

*Фрагмент анкеты для кандыдатаў Польскай рабочай партыі.*

# Летапіс Віленскай беларускай гімназіі

Беларуская гімназія ў Вільні змяшчалася ў паслябазыльянскіх мурах на вуліцы Вастрабрамскай, пад 9 нумарам. На панадворак уваходзілася з гэтай жа вуліцы цераз прыгожую браму — жамчужыну віленскага ракако, пабудаваную ў 1749 годзе. Далей міналася ўнутраную браму, званіцу XVI ст. і праходзілася побач Свята-Троіцкай царквы.

Драўляная царква была тут заснавана ў першай палове XIV ст. княжной Юльянай, другой жонкай вялікага князя Альгерда, у гонар трох хрысціянскіх пакутнікаў Няжылы, Кумеца і Кругляца, якія загінулі ў час нейкіх беспарадкаў ў Вільні. Пасля Царква дала ім імёны Антонія, Іаана і Яўстафія і занесла іх у лік святых. За іхную смерць пазней абвінавачвалі самога Альгерда, але, мабыць, гэта чыстая выдумка ягоных ворагаў. Пры яго княжанні ў Вільні пабудавалі некалькі цэркваў. Сам Альгерд, відаць, таксама стаў хрысціянінам, бо як сцвярджаюць некаторыя крыніцы, пахавалі яго ў Багародзічным саборы над рэчкай Віленкай.

Пры Свята-Троіцкім саборы заснаваны быў таксама манастыр. З часоў вялікага князя Вітаўта некаторыя архімандрыты пасвячаліся ў сан мітрапалітаў, якіх зацвярджаў канстанцінопальскі патрыярх.

Князь Канстанцін Астрожскі ў гонар перамогі над маскоўскім войскам пад Оршай на месцы старэнькай драўлянай царквы паставіў у 1514 г. прыгожы мураваны храм у гатычным стылі. Пазней гэтая царква некалькі разоў перабудоўвалася.

У час свайго візіту ў Вільню канстанцінопальскі патрыярх Іерамій пацвердзіў устаў Брацтва Свята-Троіцкай царквы. Тады таксама былі пры манастыры адкрыты друкарня і школа.

Кароль Жыгімонт III Ваза ў 1608 г. передаў царкву і манастыр уніяцкаму ордэну базыльянаў. Манастырскі архітэктурны ансамбль састаўлялі драўляныя домікі, якія згарэлі падчас пажару ў 1748 г. Праз два гады пачалі аднаўляць манастыр і пасля дваццаціпяцігадовага будавання манастырскі панадворак з паўднёвага і заходняга бакоў быў абведзены двума крыламі мураваных будынкаў (крылы сыходзіліся перпендыкулярна). У асноўным гэтыя муры перэтрывалі ў такой форме да нашага часу.

У 1576 г. тут быў пастаўлены багаты рэнесансны помнік віленскаму бурмістру Афанасію Брагу (з кірылічным надпісам), а ў 1578 г. — сёстрам Яленскім. У царкве знаходзіўся каштоўны старажытны абраз Божай Маці (Адзігітрыя), з якім маскоўскі князь Іван III адправіў сваю дачку Галену, калі выходзіла яна замуж за вялікага князя Аляксандра. Было яшчэ ў гэтым храме шэсць абразоў, намаляваных вядомым віленскім мастаком XVIII ст. Смуглевічам.

Пры царкве была капліца, у якой Тышкевічы хавалі сваіх памерлых. У палове XVII ст. Януш Тышкевіч адновіў яе, ставячы багаты помнік сваёй жонцы Барбары з Нарушэвічаў. Там жа пахаваны быў і ён сам. Пасля апошняй вайны царкву пераабсталявалі на майстэрні і склады.

У манастырскіх базыльянскіх мурах знаходзілася школа і манаская духоўная семінарыя, якія адыгралі вялікую ролю ў жыцці нашай краіны.

З пераходам нашых зямель ва ўладанне Расеі, царскі ўрад скасаваў у 1827 г. ордэн базыльянаў, а на іх маёмасць яшчэ раней налажыў руку. У левым крыле манастыра размясцілася турма, у якой у 1823 г. зняволены быў паэт Адам Міцкевіч, пазнейшы ўдзельнік паўстання 1831 г. У 1838-1839 г.г. у гэтай жа турме сядзеў вядомы рэвалюцыянер Шымон Канарскі, з якім супрацоўнічаў беларускі паэт Францішак Савіч. Адтуль вывезлі Канарскага за Трокскую браму і расстралялі.

У 1864-1867 г.г. манастыр быў перабудаваны. З паасобных келляў зрабілі прасторныя залы. Усе будынкі апынуліся ў руках праваслаўнага духавенства, якое размясціла ў іх Праваслаўную духоўную семінарыю. У такім стане паслябазыльянскія муры датрымаліся да I сусветнай вайны.

У 1918 г. пасяліліся ў іх Беларуская рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны, а цераз год — Беларуская гімназія, а пасля Беларускае навуковае таварыства і Беларускі музей імя Івана Луцкевіча. Беларуская гімназія заняла частку абодвух крылаў. У заходнім крыле займала яна толькі першы паверх (на другім знаходзілася Праваслаўная духоўная семінарыя). У паўднёвым крыле з 1921 г. пасяліліся Беларускі музей і Беларускае навуковае таварыства, а ў 1927 г. польскія ўлады забралі левую (ад уваходa) частку крыла.

Беларуская рада Віленшчыны і Гродзеншчыны перастала існаваць у 1920 г. Калі Вільню канчаткова далучылі да Польшчы, польскія ўлады адсудзілі ў 1927 г. базыльянскія муры ад праваслаўных. Другі паверх заходняга крыла, з якога выкінулі Праваслаўную духоўную семінарыю, быў перададзены Саюзу польскіх літаратараў. Там пазней у гонар Адама Міцкевіча быў арганізаваны музей, вядомы як „Келля Канрада". У часе ўзмоцненага націску на беларускасць у апошніх гадах перад вайной, у 1938 г. польскія ўлады выкінулі з паслябазыльянскіх муроў і Беларускую гімназію, ды перанеслі ў цесныя муры пры вуліцы Дамініканскай, 3/5. У асвабоджанае месца пасялілі наваствораную паслярматуральную педагагічную школу (педагогіум). На новым месцы Беларуская гімназія датрымалася да нямецка-савецкай вайны ў чэрвені 1941 года.

У часе акупацыі немцы спачатку не згаджаліся на далейшае існаванне Беларускай гімназіі. Пасля доўгіх захадаў акупанты дазволілі адкрыць Віленскую беларуска-рускую гімназію, якая пасялілася ў будынку былой польскай настаўніцкай семінарыі пры вуліцы Вастрабрамскай, 29.

Пасля II сусветнай вайны беларускае насельніцтва Вільні і падвіленскіх раёнаў засталося без сваіх школ і друку.

*(працяг будзе)*

**Віктар Ярмалковіч**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Вучнёўская творчасць

## Лета

Прыйшло лета
Нам на радасць.
Грэе сонца,
Вада ў рэчцы цёплая.

Птушаняты спяваюць.
Людзі косяць траву.
Вучні бегаюць, гуляюць.
Канікулаў чакаюць.

Адрыян Выркоўскі
Пачатковая школа
ў Ягуштове

Пішуць школьнікі

### Дарагая „Зорка"

Мяне завуць Міхась Сцепанюк. Вучуся я ў IV „е" класе бельскай „тройкі".

12 і 13 мая наш клас ездзіў на экскурсію. Раніцай 12 мая мы выехалі з Бельска. Ехалі вельмі доўга. Урэшце даехалі ў Казлоўку. Там наведалі музей Замойскіх. Адтуль паехалі ў Люблін. Вельмі нам падабаўся стары горад, старадаўнія будоўлі. Наведалі таксама гітлераўскі канцэнтрацыйны лагер у Майданку. Вечарам адпачывалі ў гатэлі.

А раніцай рушылі мы зноў у дарогу. Найперш завіталі ў Налэнчаў. Там ёсць курорт, мінеральныя крыніцы лячэбнай вады, прыгожы парк. Пасля абеду мы паехалі ў Казімеж-Дольны. Усім вельмі спадабаўся паход на гару Трох Крыжоў. Там мы пабачылі замак.

Пазней мы плылі па рацэ Вісле. Экскурсія так мне спадабалася, што аж не хацелася вяртацца дадому.

*На ўроку беларускай мовы. Міхась Сцепанюк— першы злева.*
Фота Ганны Кандрацюк

**Ад рэдакцыі:** Цікавіць мяне ці па дарозе вы спявалі песні вашых „Журавінак". І здымкі пэўна ў вас атрымаліся цікавыя. Вялікае, Табе, Міхаська, дзякуй за прыгожы ліст. І яшчэ напамінаю, што ты будзеш удзельнікам штомесячных конкурсаў „Зоркі".

З-ка

## Рашэнне
### штомесячнага конкурсу „Зоркі" за чэрвень

Узнагароды атрымаюць:

— *каляровыя алоўкі*:
1/ Павел Кубаеўскі з Орлі,
2/ Юліта Яканюк з Крывой,
3/ Томак Саевіч з Дубіч-Царкоўных.

— *запісныя кніжачкі:*
4/ Бася Ляўчук з Крывой,
5/ Эва Паплаўская з Орлі.

— *касеты рок-гурту „Брага":*
6/ Адам Сцепанюк з Гукавіч,
7/ Мар'юш Богунь з Дубіч-Царкоўных.

— *кніжку Максіма Танка „Ехаў казачнік Бай":*
8/ Цалінка Глагоўская з Гданьска.

Эля Карпюк, Сільвія Паплаўская, Магда Госцік, Малгажата Госцік і Андрэй Казёл пабывалі разам з „Зоркай" над самым прыгожым на Сувальшчыне возерам Шэльмент. Калі засвяціла цёплае сонца, усе пайшлі купацца. Некаторыя нават не паспелі распрануцца, а ўжо кінуліся ў ваду. Тыя, што не хацелі плаваць у вадзе, каталіся на лодцы. На Шэльменце у сонечны дзень процьма такіх лодак. Асабліва аблюбавалі іх закаханыя парачкі.

Тэкст і фота Г. К.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

### Куткі

Настаўніца пытаецца:
— Вовачка, кім ты хочаш стаць?
— Архітэктарам!
— А чаму менавіта дойлідам?
— Каб збудаваць дом без куткоў...
— А чаму без куткоў?
— Надакучылі!

### Грошы

Бацька гаворыць:
— Я ўчора на вуліцы знайшоў партманетку з грашыма і аднёс яе ў „Бюро знаходак". А што б ты, Вовачка, зрабіў на маім месцы?
— Тое самае, — адказаў сын, — падмануў бы!

### Зорка

Выкладчык астраноміі:
— А зараз я пакажу на карце неба вельмі вялікую зорку. Святло ад яе да нас ідзе 10 000 гадоў...
— Ну, тады мы яго не дачакаемся, — дапоўніў Вовачка.

### Адказ

Выкладчык геаграфіі:
— Вовачка, скажы, куды мы з табой патрапім, калі будзем свідраваць Зямлю наскрозь па экватары?
— У дом для вяр'ятаў.

*(„Бярозка", 4/1995)*

Увага, конкурс!

## ЗАГАДКІ

Над гарамі,
доламі
што гарыць
без полымя?
А пажарным —
не ў цяжар.
Іх не клічуць
на пажар.
Шле святло сваё
ў аконца,
нібы жар,
уранні
.........

*

Сам нябачны ён,
ды цень
смела гоніць
пад пляцень.
А як пойдзе
за паўдня,
цень адпусціць
з-пад плятня.
Дык каго
баіцца цень?
Гэта —
сонечны ...........

*

У блакітныя лугі
едуць шэрыя стагі.
Ні вазка,
ні вазака.
Толькі ветрава рука
свішча-хвошча пугаю
над усёй акругаю.
Пацямнелі ўсцяж абшары.
Не стагі паўзуць,
а ..............

Артур Вольскі

Адгадайце загадкі. Аўтары правільных адказаў атрымаюць аўтаручкі.

## ДЗІЦЯЧЫЯ МАЛЮНКІ

*Ілюстрацыю да казкі "Леў і мыш" намалявала Моніка Анткові, вучаніца IV класа Пачатковай школы ў Ягуштове.*

# БАСОВІШЧА


*Музыка выклікала нечаканыя станы.*


*Гаспадары гміны не танцавалі "пога".*

14—15 ліпеня г.г. шосты раз у падгарадоцкім урочышчы Барык сустрэнуцца рок-гурты з Беласточчыны і Беларусі на сваё музычнае свята. За год часу, які прайшоў ад юбілейнага выпуску Фестывалю музыкі Маладой Беларусі, тут, на Беласточчыне, і там, у Беларусі, змянілася шмат. Польшча робіць выгляд, што ўжо з Захадам, а беларусы адтуль, не толькі зрабілі выгляд, але і крок у адваротным напрамку. Адзінай канстантай у гэтым кантэксце застаецца пакуль музыка — пакуль, разумеецца, каму-небудзь хочацца яшчэ паспяваць па-беларуску, бо вонкавая рэчаіснасць штуршкоў дзеля гэтага дастаўляе няшмат.

Беларускае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы неяк трымаецца і, на здзіў ды перакор сваім непрыхільнікам і насміхальнікам, мэты даб'ецца — „Басовішча'95" адбудзецца. Паводле **Юркі Сульжыка**, былога старшыні БАС, арганізацыяй фестывалю займаецца Галоўная рада Аб'яднання, у тым ліку і ейны былы старшыня. „Адной-двух сапраўды адказных за фестываль асоб у нас няма, — шкадуе былы старшыня. — Што ж, гуртавы абавязак — мала надзейная справа, але і так мусіць быць, калі іначай нельга было".

„Басовішча'95", як і папярэднія выпускі фестывалю, мае адну характэрную рысу — так папраўдзе да апошняга моманту невядома, якім ён будзе. Некалькі арыенціраў аднак ужо ёсць. З Беларусі прыедуць два гурты, якія выступяць па прынцыпу зорак фестывалю. Гэта **Палац** — пераможца конкурсу „Басовішча'94" і **Крама**. Удзел у конкурсе „Басовішча'95" заявілі тры гурты з Беларусі: „Гай", „Ветэран" і „Тарнада" (назва з мінулага „Басовішча", цяпер завецца неяк іначай). Набор гуртоў і перамовы з імі вялі ў Беларусі **Альжбета Бурачэўская і Гражына Адамік**, а медыятарам быў **Уладзімір Пац**. Ці не ад іх гэта пайшла чутка, што нанава завязаўся гурт, які для сотняў маладых беларусаў з Беласточчыны стаў героем беларускай рок-эстрады — маецца на ўвазе менскі **Уліс**. Інфармацыя гэтая, засцерагаўся Ю. Сульжык, няпэўная, але калі што, дык „Уліс" мае зайграць у Гарадку.

Ну, а ад нас? Вядома, што да ўдзелу ў фестывалі арганізатары запрасілі (не абазначае гэта, што яны выступяць — *Ю. Сульжык*) два гурты-лаўрэаты конкурсу з мінулага года — **Белы Сон і Брага**. Што яшчэ — невядома. Да канца чэрвеня гурты з Беласточчыны маглі дасылаць свае заяўкі на адрас Беларускага аб'яднання студэнтаў. Ці выйшла што з гэтага — пабачым у Барыку. Пачатак канцэртаў у пятніцу (14 ліпеня) і ў суботу (15 ліпеня) прадугледжваецца на 18 гадзіну. У нядзелю (16 ліпеня) гміна Гарадок арганізуе ў Барыку народны фэст.

**Аляксандр Максімюк**

P.S. Побач бачыце здымкі Віктара Стахвюка з мінулагодняга „Басовішча".


*Дзяўчаткі трошку стаміліся.*


*Артысты горла не шкадавалі.*


*Поўнач.*


*Над раніцай.*

# Як Міхась Хмялеўскі сяброў сустракаў



*"А нашы вочы яшчэ раз сустрэліся..."*

... а сябры, супрацоўнікі з „Нівы" і БГКТ ды радня сустракалі яго ў адзін сонечны, летні ўжо дзень. А было гэта ў 26 дзень чэрвеня, роўна 70 гадоў пасля яго дня нараджэння. Нарадзіўся дарагі наш Міхась на Сакольшчыне, у Паўднёвым Вострaве, а свята спраўлялі мы ў Беластоку, у гасцінных памяшканнях Беларускага таварыства па вул. Варшаўскай 11. Гасцей сабралася шмат — ад маленькіх унучачак Міхасёвых і Галіных ды малой дачушкі Віктара Шведа да яго аднагодкаў і старэйшых ад Міхася „на нейкія паўтара месяца" (сп. У. Юзвюк), разам з афіцыйнымі асобамі — дыпламатычнымі прадстаўнікамі Рэспублікі Беларусь Міхасём Слямнёвым і Ігарам Хадасевічам. Не забракавала і пажаданняў ад самога віцэ-ваяводы. І кветкі, мора кветак, якія так любіць Юбіляр, разнавідных (як ні дзіўна, у БГКТ і „Нівы" густ кропля ў кроплю — уручылі аднолькавыя, пышныя букеты!). Прамовам і ўспамінам не было б канца, калі б Юбіляр, славуты найкарацейшым тостам-прамовай у час застойнай застольнай мінулай афіцыйшчыны („Ну, то вып'ем!") не паклікаў усіх за багатыя сталы (як добра мець спонсара!). Але, пакуль накінемся на ўсё смакоцце, якое чакае нас у другой зале, вернемся да самай урачыстай часткі. Бо словы, як кветкі, рассыпаліся гірляндамі на той вечарыне, прыгожыя і праўдзівыя, без бывалай у падобных момантах „афіцыёзнасці". Першы ўзяў голас гаспадар, Янка Сычэўскі.

— Маю вялікі гонар ад БГКТ і нашага Юбіляра прывітаць сабраных сяброў на вельмі сціплай, вельмі прыватнай імпрэзе, якая мае мэту вельмі чалавечую, гуманную — адзначыць сямідзесяцігоддзе аднаго з нас, чалавека, якога ўсе ведаем, які служыў беларускай справе на працягу многіх гадоў, мужа, бацьку, дзеда, сябра, супрацоўніка. Усяго ў жыцці бывае. Жыццё чалавека гэта і плач, і смех...

Якраз такія моманты са свайго жыцця ўспомніў Юбіляр. І хвіліны забаўныя, светлыя, смешныя, і такія, калі ўцякаў перад смертаноснай куляй.

— Было нас двое, а цяпер — шаснаццаць! — гэта словы поўныя радасці і гонару чалавека, які дацэньвае каштоўнасці жыцця поўнага — у службе сям'і і грамадства, шчаслівага, калі бачыш плён пасля пройдзенай нялёгкай дарогі.

— Міхась нічога не змяніўся, быў заўсёды малады, як і сёння, — сцвердзіў Ян Зенюк. — Міхасёвая гадавіна не толькі прыватная. Усюды ў жыцці нашага таварыства паяўляецца імя Міхася Хмялеўскага. Гэта гісторыя нашага таварыства, гісторыя актыўнай дзейнасці. Міхась гэта таксама гісторыя „Нівы". Будзь заўсёды маладым, Міхась!

Віктар Швед таксама нядаўна святкаваў сямідзесяцігоддзе. Усё жыццё таксама актыўна ўдзельнічаў у жыцці беларускай сябрыны. З Міхасём знаёмы яны паўстагоддзя. Вядома, паэт падарыў Юбіляру свой твор, — не мог прыйсці на такую ўрачыстасць без верша!



*Традыцыйнае "сто гадоў" — гэта нешта ўмашта-бе вечнасці.*

*Мы аднагодкі акурат.*
*Мы ўжо сябруем паўстагоддзя.*
*Нам прамінула семдзесят*
*У працы ў родным асяроддзі.*

*Яшчэ нас не гнятуць гады,*
*Яшчэ, Міхась, мы не старэчы!*
*Душой з нас кожны малады,*
*Яшчэ ж — мужчыны мы, дарэчы!*

*Міхась дабрэйшы для людзей,*
*Дзеяч БГКТ і „Нівы".*
*Сёння твой, дружа, юбілей.*
*Будзь жыццярадасны, шчаслівы!*

*Жыві нам, братка, сто гадоў,*
*Здаровым будзь душой і целам,*
*Каб мы сустрэліся ізноў,*
*Кульнулі чарку, зразумела!*

— Міхась Хмялеўскі — гэта цэлая эпоха, — узяла голас і прадстаўніца „Нівы" Ада Чачуга. — Эпапея, я б сказала. На кожную вёску ён прыязджаў як дахаты. Яго людзі любілі. Калі прыязджалі да нас у рэдакцыю карэспандэнты і іншыя, то Міхась заўсёды знайшоў для іх час, добрае, цёплае слова для чалавека, якога, бывала, бачыў упершыню. Быў Міхась таксама выдатным арганізатарам усялякіх урачыстасцей. Рэдка сустрэнеш такога чалавека поўнага аптымізму. Няхай гэты аптымізм ніколі не згасае, не згасае!



*Сын Юбіляра, маёр Юрка Хмялеўскі з Уладзімірам Іванюком з хору БГКТ.*

Некалькі кароценькіх апавяданняў з яшчэ „гарачай" кніжыцы „І так бывала" прачытала Яніна Чэрнякевіч. Добра, што ўдалося, з дапамогай спонсара — сына Юркі, выдаць гэты зборнік, у які ўвайшла частка публікацый, след працы Міхася Хмялеўскага на працягу 30 гадоў. Кранае ён трагічныя і сумныя справы чалавечага жыцця, акрашаныя хвілінамі прыгажосці і шчасця. Чытач не раз праслязіцца, узрушаны, усхваляваны. Сляза ачышчае душу, як прамывае вока, і бачыць яно свет чысцейшы, і душа чужы боль адчуе. Успомніла пані Яня першую рэпарцёрскую вандроўку з Міхасём у вёску. Усюды людзі прымалі яго як свайго чалавека. Даў тады старэйшы калега Яні фундаментальную параду: „Ніколі не пачынай працы галодным!".

Узяў голас і генеральны консул Рэспублікі Беларусь Міхась Слямнёў, які прызнаўся публічна ў пачуцці з першага погляду. Вось, пабыўшы на Беласточчыне толькі пару дзён, убачыў, якія ў нас класныя дзядзькі! Дзеячы, журналісты, мужчыны! Верш і чын Віктара Шведа таксама сведчыць пра тое, што мужчыны ў нас не зводзяцца, і далей так быць павінна, калі жыве Беларусь!

Ну, пара перайсці ўжо ў суседнюю залу, дзе сталы ўгінаюцца, нарыхтаваныя як на вяселле! Так! Бо і стравы смачныя, духмяныя, і напоі чыстыя-празрыстыя, і спевы з гармонікам Сцёпавым, і жарты ды пацехі, і гоман беларускі, і шчабятанне дзетак. Стараліся мы, стараліся, і так не адолелі — не змаглі пакаштаваць усяго — „абрус-самабранка" спадарыні Галі карміў бы нас дні тры. Дай Бог дачакаць нам юбілею стагоддзя Міхася Хмялеўскага!

Шкада, што Міхась-усім-Сваяк не піша ўжо ў „Ніву", а мае пра што і каго напісаць. Не такую кніжыцу ў амаль трыста старонак мог бы яшчэ стварыць! Грэх так час траціць — 70 гадоў гэта яшчэ не ўзрост, каб толькі ўнучак нянчыць ды калупацца пры раслінах! Яно гэта справа надрэнная і карысная, але тое, што запісана, застанецца. Чакаем у „Ніве"!

**Міра Лукша**
**Фота Юрыя Хмялеўскага**



*Юбіляра віншавалі сябры.*



*Стравы былі смачныя, духмяныя, а напоі — чыстыя-празрыстыя.*



*Калі пілі здароўе Юбіляра, рука з чаркай сама падымалася.*

## Народжаныя трынаццатага

У такі дом апекі, у якім цяпер знаходзяцца яе дзеці, у 1959 годзе аддаў Галю бацька. На пахаванне спадарыні Філіповіч прыйшла ўся Кавалерыйская. Людзі памятаюць сумную сустрэчу суседзяў і сваякоў над труной 33-гадовай прыгажуні, маці дзвюх дзяўчынак, Галінкі (6 гадоў) і Лілі (4 гады), мілых бландзіначак, да якіх яшчэ не даходзіла тое, што няма ў іх ужо матулі. Спадарства Філіповічы, хоць маладыя, дарабіліся ўжо былі прыгожага доміка з агародам. Жонка пайшла на той свет, а бацька, працаўнік бяспекі, праз паўтара месяца ўзяў сабе жонку новую, а дзяцей, як малады ўдавец, аддаў на перахаванне ў Апякунчае „пагатове” — на выхаванне дзяржаве. На жаль, „панства” сцвердзіла, што ў змозе ён іх утрымаць, і пасля нядоўгай пабыўкі, якую Галя ўспамінае як кашмар, дзяўчынку „oddano w ręce ojca”. Не мела яна, аднак, ужо свайго месца ў доме, і заняліся ёю сваякі. Суседзі яшчэ сёння памятаюць, што мачаха лепш адносілася да падчарыц, чым іх родны бацька.

Прыгожая вырасла з Галі дзяўчына. На жаль, можам пра гэта сказаць, паглядзеўшы на здымкі. Сёння гэта кашчавая, высахлая жанчына, якой дасі намнога больш чым 42 гады. Не збіралася выходзіць замуж, адносілася да ўсіх мужчын з недаверам і боязззю. Былі і праблемы — трапляліся ёй усё хлопцы-католікі. Урэшце, у 30 гадоў, рашыла выйсці замуж дзеля таго, каб нарадзіць дзяцей. Мужам стаў Мечыслаў Цывінскі. Галя пайшла вянчацца ў касцёл. Але заўсёды заставалася „сцервай такой як і яе маці-кацапка”, і не раз ляцелі зубы з яе рота пасля слоў у абарону сваю, маці і веры. А спадчыны Галіна чакала — маёмасць па маме — пляц недалёка новага базара. Месца цяпер дарагое, паколькі Беласток разрастаецца, асабліва яго гандлёвы цэнтр. Бацька такога не мог сцярпець — марнуецца такое дабро: вось яго „niewydarzona” дачка мае права да ягонае маёмасці! І дзяцей сваіх гадуе, будуць лапкі пасці і на яго дабро, а ў яго ж цяпер свая сям'я! Унучкі, Эва і Ясь (Пётрусь памёр у маленстве) ніколі не пачулі добрага слова ад дзеда, ні тым больш у абарону маці перад зверскім мужам. А жылося ёй цяжка. Усё было на яе галаве — і ўтрыманне сям'і, і абарона дзяцей перад татам-скандалістам. Здароўе пагоршылася, нервы пусцілі. Неўроз, дарэчы, у аднаго працэнта ўсяго насялення Зямлі, — такі вынік жыцця ў стрэсе. Добра, што хоць дзеткі Галіне ўдаліся — прыгожыя, паслухмяныя, найлепшыя вучні ў класе, нягледзячы на тое, што аднакласнікі крыўдзілі асабліва Яся, білі яго, смяяліся, што мама ў яго хворая нейкім „ракам”. Галініна здароўе пагоршылася настолькі, што атрымала III інвалідскую групу і перайшла на пенсію. У сорак сваіх гадоў, бледная, бяззубая, выглядала амаль як бабуля. Адзінай падмогай былі суседзі. На жаль, часцей добрым словам успамагалі Галіну. Муж, урэшце, спакаваўся і забраўся ў свет (на жаль, час ад часу заглядаў, каб паказаць, хто тут усё ж пан). Галя падала заяву ў бюро прапісак, што муж не пражывае ўжо пад гэтым адрасам, суседзі могуць пасведчыць, што згаданы пакінуў сям'ю. Выступіла таксама ў суд у аліментацыйнай справе. Ну і тады аб'ядналі свае сілы бацька Галін, спадар афіцэр у адстаўцы — Філіповіч з аграмаднай пенсіяй („не зачапайце яго, бо ён многа можа, яшчэ і вам зашкодзіць”, — сказалі мне суседзі), які ўбачыў магчымасць забраць сабе пляц свае першае жонкі, і Мечыслаў Цывінскі — не плаціць аліментаў на двое дзяцей, а аддаў іх на выхаванне дзяржаве. У I Цывільным аддзяленні суда склаў ён адразу справу аб прызнанні Галіны Цывінскай недзеяздольнай, словам — найлепш зрабіць з жонкі вар'ятку, якая не можа рашаць ні маёнткавых спраў, ні выхоўваць дзяцей. Не можа ў такім выпадку чалавек рашаць нават свае асабістыя справы, словам — не мае ніякіх правоў як грамадзянін і як чалавек. Калі немагчыма дзяцей аддаць адразу ў Дом дзіцяці, дык даць ёй куратара з суда: жыве ж на мяжы нэндзы, дзеці галодныя ў школу ходзяць, а ўвогуле то іх не пускае туды... З дакументаў вынікае, напрыклад, колькі ганарару, значыць, сто злотаў, атрымала эксперт Ядвіга Р. са Спецыялістычнага шпіталя ў Харошчы, але няма ні слова пра тое, што яна ў Галіны Цывінскай сцвердзіла. А ў паліклініцы па вул. Бема ў парадні псіхіятрычнай хопіць чалавеку „залажыць” карту на кансультацыю, каб сцвердзілі, што ён там ужо лечыцца, а лекара абавязвае захаванне лекарскай тайны. У сентэнцыі прыгавору ў V Аддзяленні сям'і і малалетніх ад 7 лістапада 1994 г., у справе „z urzędu” (у Галіны няма грошай на адвакатаў) аб замене абмежавання матчынай улады, каб памясціць дзяцей у апякунча-выхаваўчы пункт, пададзена прычына — дзеці не ходзяць у школу, а ў Галіны ж ёсць школьныя пасведчанні з заканчэння таго ж школьнага года — у Яся і Эвы адны пяцёркі, чацвёркі, у дзяўчынкі, мастацка адоранай — шасцёрка па пластыцы, а паводзіны іх — узорныя, пасведчанне Эвы — з чырвоным поясам, як выдатніцы. З іншых дакументаў вынікае, што „апякунча-выхаваўчая сітуацыя дзяцей дрэнная. Пражываюць яны з маткай, якая патрабуе пастаяннай лекарскай апекі (...). Дзеці нервозныя, спалоханыя...”

Галіна зусім не разбіраецца ў праўных закавычках, як кожны чалавек, для якога і тэрміны, і стацці, і апеляцыі — зусім цёмная справа, калі яму не растлумачыш. Але верыць у адно — павінна быць справядлівасць на свеце, калі няма ўжо шчасця. Бог жа ведае праўду. Галіна Цывінская ходзіць усюды, куды можна і нельга, прарываецца са сваім жалем, болем і няшчасцем: дапамажыце забраць маіх дзяцей дадому, я без іх жыць не магу! І ў святога мучаніка дзіцяткі Гаўрыіла была, заступніка дзяцей, носіць з сабою яго іконку, верыць, што і ён узмоцніць яе і сілу дзяцей. Ва ўстановах глядзяць на Цывінскую як на нейкую шалёную асобу: чаго гэтая баба хоча ад спакойных людзей, што займаюцца сваімі справамі?! На ваяводскім куратары робяць ураджанне школьныя пасведчанні, але тут не яго кампетэнцыя, а суду. Юрыст кажа проста ў вочы: „Пані Цывінская, тут трэба вялікія мільёны, а з панам Філіповічам не наважымся ваяваць.” Пісала апеляцыі, але недзе прапалі. Можа, і сама недзе ўжо іх пагубіла?.. Адно яе цяпер гоніць наперад, дае сілы жыць: убачыць малых, прытуліць да сябе, быць з імі. Дробная худзенькая бландзінка назойліва гудзе перад усімі, хто хоча і не хоча яе слухаць: „Аддайце мне маіх дзяцей! Людзі добрыя, дапамажыце!” І паказвае „Пахвальны ліст”, які ў канцы чэрвеня г.г. атрымала ад намесніка дырэктара апякунчага пункта па вул. Орляй 2, з эпіграфам з Гётэ: „Як можаш спазнаць самога сябе? Не назіраннем, а ў дзеянні. Старайся выпаўняць свае абавязкі, і адразу даведаешся, чаго ты варты.” І словы ў адрас Эвы Цывінскай: „За ўзорныя паводзіны выхаванкі інтэрната ЗПОВ, за прыкладныя паводзіны, выдатныя вынікі ў вучобе, грамадскую ангажаванасць у жыцці нашай установы (...). Хочам падзяліцца з Вамі радасцю, што ёсць дзеці, праца з якімі ёсць прыемнасцю.”

Адзінай асобай-працаўніком апякунчага пункта, якая трактуе Галю Цывінскую як клапатлівую, кахаючую матку, ёсць Лідзія Трапачук.

— Я сказала супрацоўнікам, што я заўсёды не адмоўлюся Галіне Цывінскай даць магчымасць кантакту з яе дзецьмі! — кажа сп. Лідзія. — Я сама — маці, і бачу, як яна іх кахае. І ніхто мяне не прымусіць не даць ёй магчымасці з імі спаткацца!

Чаму не хочуць бачыць Цывінскую ў апякунчым цэнтры? У сакавіку, калі дзеці атрымалі пропуск, паехала з імі на дзень у Варшаву, пасля не вярнула назад. Хацела пабыць з імі як найдаўжэй. Цывінскіх са школы забралі панове ў цывільным, на „Фіаце” без знакаў. Абяцаў участковы з IV пастарунка дапамагчы, каб дзеці былі дома пад канец чэрвеня. Але найчасцей яго знайсці немагчыма. Галіна Цывінская звоніць, бегае, даведваецца, дзе могуць быць яе дзеці — на экскурсіі можа, ці на басейне?.. Кажуць ёй, што там, яна забягае туды на сваіх аслаблых нагах, каб хоць здалёку пагля-дзець, а іх там няма. Шкадуе грошай на аўтобусныя білеты, бегае пешшу па цэлым Беластоку, шукае Эву і Яся.

— Божа, там жа розныя дзеці трапляюцца! З сем'яў алкаголікаў, бандытаў! Крыўдзяць Яся, брыдка лаюцца! Чаго ён там можа навучыцца! Эва лепш трымаецца, у яе стойкі характар. А мне ўжо сну толькі трэба, прытуліць маіх дзетак... Малюся да Гаўрыіла, каб памог. І маму ў сне прасіла, каб памагла нам пратрываць. Хто іх там прытуліць, суцешыць?.. Эва аддзельна, Ясь з чужымі хлопцамі... Я зусім ашалею, без сну, толькі з адной думкай, каб мне іх вярнулі. Трускалкі ў нашым агародчыку ўжо пераспелі, парэчкі даспяваюць. Дом пусты, без маіх каханых галасоў. Так яны верылі, што за найлепшыя вынікі ва ўзнагароду дамоў пойдуць...

Эва ўжо ў V класе, Ясь у IV. Бачылі мы Яся ў рэдакцыі. Вырвала яго маці з групы дзяцей, што выйшлі з басейна. Проста — украла свайго сына. І Эва рвалася да маці, але дужыя апекуны не пусцілі, аж адарвалі ад зямлі.

— Божа, Галечка, што ж вы нарабілі? Вам жа іх ізноў адбяруць, будуць іх ад вас хаваць! — спалохалася я.

— Не, я не аддам свайго сыночка. І Эву мушу забраць!

Як будзе? Зноў наз'язджаецца паліцыі, скуюць Галіны рукі кайданамі, пахапаюць вырываючыхся дзяцей і ўвапхнуць у машыну, якая завязе іх у дом, дзе сэрца і апекі шукаюць дзеці пакінутыя і нешчаслівыя?

Пайшла ў мінулую пятніцу Галіна Цывінская заплаціць падатак за пляц, свой маёнтак. А ёй там сказалі:

— Ужо заплаціў пан Філіповіч. Зазначыў, што гэта ён плаціў, а не вы...

Не маеш, Галя, ні радні, ні дзяцей, і той кавалачак зямлі табе хочуць забраць. Не маеш лёсу. Пэўна, калі б жыла твая мама, інакш было б! Ведаеш гэта, і таму так абараняеш сваё адзінае дабро і шчасце!

**Міра Лукша**

***P.S. Імёны і прозвішчы зменены.***

## 5-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы.

***(Матфей, 8:28—9:1)***

У 5-ую нядзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца ўрывак з 8-га раздзела Евангелля паводле Матфея. У ім гаворыцца пра аздараўленне апантаных людзей. Нячыстых духаў, выгнаных з гэтых няшчасных, Хрыстос пасяліў у гурт свіней, якія „кінуліся з кручы ў мора і патанулі ў ім”. Жыхары горада, пашкадаваўшы страты, прасілі Ісуса, „каб адышоў ад межаў іх”. Страта маёмасці была ласкай аказанай уладальнікам, бо паглыналі іх выключна матэрыяльныя клопаты, не пакідаючы месца духоўным. Хрыстос хацеў перамагчы стан эгаізму, аднак блізарукая карысць узяла верх над вышэйшымі пачуццямі. Гергесінцы атрымалі доказ моцы і міласэрнасці Хрыста, але, баючыся далейшых стратаў, палічылі Хрыста няпрошаным госцем.

Гэтак аднaзначна адвярнуцца ад Хрыста, як зрабілі гэта жыхары Гадарынскай зямлі, мы самі — магчыма — няздольныя. Заўсёды аднак былі і будуць людзі, якія адмаўляюцца ад удзелу ў царкоўным жыцці, каб не браць на сябе царкоўных абавязкаў. У Нямеччыне, дзе вернікі плацяць на сваю Царкву падатак ад заробку, многія афіцыйна выпісваюцца са сваіх парафій. Гэта яшчэ не доказ цалкавітага няверʼя, але абазначае, што эгаістычная выгада бярэ верх над падпарадкаваннем сябе Божаму кіраўніцтву.

Згаданы фрагмент Евангелля звяртае ўвагу на справу выбару паміж матэрыяльнай і духовай карысцю. Звычайна чалавеку бліжэйшае тое, што больш рэальнае, больш наглядное і хутчэй адчувальнае. Тым часам карысць духоўная можа быць не адразу адчувальная: яна гучыць абстрактна. Тым не менш перад гэтакім выбарам чалавек стае шмат разоў у жыцці; проста не раз вымушаны выбіраць паміж голасам сэрца і розумам, паміж пачуццямі і халодным разлікам.

Перад выбарам паміж уяўнай выгадай і пакутніцтвам стаяў Апостал Пётр. Ёсць у кніжцы Генрыка Сянкевіча „Quo vadis” незабыўны эпізод, калі падчас жорсткіх праследаванняў у Рыме намовілі Пятра ўцякаць і ратаваць сваё жыццё. Па-за горадам яснае воблака, быццам сонца, наблізілася да Апостала і той прамовіў да чалавека-здані: „Куды ідзеш, пане?” — „Іду ў Рым, каб другі раз мяне ўкрыжавалі”, — гучэў адказ. Апостал усё зразумеў і ў адну хвіліну пастанавіў вярнуцца ў Рым і неўзабаве прыняў там пакутніцкую смерць — быў павешаны на крыжы галавою ўніз.

Аб тым, што людзі часцей мараць пра багацце, чымсьці хацелі б быць, напрыклад, разумнымі, ведаем усе самі па сабе. Дарэчы, на недахоп розуму яшчэ ніхто не скардзіўся. Звычайна ў яго недахопе папракаюцца іншыя. Насуперак чалавечым меркаванням Хрыстос вучыў, што сапраўдная мэта чалавечага жыцця ў Богу, а кароткае зямное жыццё мае сэнс толькі ў перспектыве вечнасці. „Ты стварыў нас, Божа, для Сябе і неспакойныя сэрцы нашы пакуль не супакояцца ў Табе”, — са смуткам пісаў блажэнны Аўгусцін. Як кінуты ўгору камень вяртаецца на зямлю, гэтак і душа імкнецца назад — да свайго Тварца.

У жыцці можам заўсёды выбіраць, аднак не заўсёды выбіраем тое, што служыць нашаму сапраўднаму дабру. Неаднойчы, дасягнуўшы свае дробязныя мэты, сцвярджаем, што памыліліся, што не гэта нам было патрэбнае. Гэта і ёсць пакаранне за блізарукасць і за дрэнны выбар каштоўнасцей.

Як жа павучальнае ў гэтым сэнсе жыццё і канчына Святога Іаана Залатавуста. Бескампрамісны змагар за чысціню веры і звычаяў, пазбаўлены архірэйскай кафедры, хворы і зняважаны прымітыўнымі жаўнерамі памёр на выгнанні недзе каля Каўказа і ягонымі апошнімі словамі былі: „Дзякую Табе, Божа, за ўсё”. Ён не скардзіўся на свой лёс і не шкадаваў таго, што зрабіў. Зусім інакшай была канчына Емяльяна Яраслаўскага. Гэты партыйны дзеяч і рэвалюцыянер напісаў мноства прац па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Ён маніякальна высмейваў і апаганьваў рэлігію ў сваіх шматлікіх, бязбожных творах. Аднак паміраючы, гэты блюзнерца благаў Сталіна: „Спалі ўсе мае кніжкі. Глядзі, Бог тут. Ён чакаў мяне... спалі ўсе мае кніжкі”. Ведаю некалькі чалавек, якія рады былі б, дзеля цяперашняй працы, спаліць напісанае імі раней.

Магчыма, мы ніколі не будзем стаяць перад нейкім драматычным выбарам. Затое пытанне як жыць, каб пражыць жыццё і не шкадаваць гэтага — тычыцца ўсіх нас.

**а. Канстанцін Бандарук**




### Няхай сабе, але чаму?

Не хачу, каб кагосьці здзівіў мой незразумелы загаловак, дык зараз высветлю, што я хачу сказаць.

Ужо некалькі гадоў цягнецца такая вось справа: караць, ці не караць, прызнаць ці не прызнаць ветэранамі, працаўнікоў дзяржаўнай бяспекі, вайсковай інфармацыі і вайсковай пракуратуры, ды ўсіх, хто з гэтымі органамі быў звязаны. Правыя колы сённяшняй Польшчы нават пазваляюць сабе на гучныя, абражаючыя чалавечую годнасць эпітэты ў адрас людзей, якія там служылі, хаця яны Богу душой не вінаваты. Абзываюць нас злачынцамі, бандытамі і ўсё робяць, каб гэтыя службы прызнаць злачыннымі, а сапраўдных злачынцаў апраўдаць, ды яшчэ апрача грашовых кампенсацый узнагародзіць іх медалямі. Так была пастаўлена справа на Сейме РП і 30 чэрвеня 1995 года. І якраз гэта заставіла мяне сесці за машынку.

Добра, я згодны з тым, што трэба пакараць віноўнікаў чыёйсьці крыўды, не гаворачы ўжо аб учыненых злачынствах... Вось, вось, калі ўчынсных? Чаму такія „справядлівыя", „богабаязныя" і „дэмакратычныя", барані Божа, салідарнікі (не буду нікога называць па прозвішчы, бо ўсе іх ведаюць) увесь час вызначаюць як злачынны перыяд 1944—1989 гадоў? Бо тады была народная ўлада і ўзброеныя сілы ў часе вайны і тут жа пасля яе заканчэння ліквідавалі ўзброеныя банды, якія замест ісці ў кааліцыю дабівадь фашызм, узяліся за ліквідацыю спакойнага, сапраўды богабаязнага, мірнага, праваслаўнага насельніцтва, асабліва на Беласточчыне і польскага насельніцтва, якое аддавала налогі і пасылала сыноў у армію. Няхай бы паспрабавала не выканаць грамадзянскага абавязку. Зрэшты, значная большасць падтрымала народную ўладу. Паўтараю: я за тым, каб караць усіх злачынцаў, але і тых, хто забіваў грамадзян у іх дамах пасля вайны, і тых, хто катаваў вязняў у турмах і канцлагерах даваеннай Польшчы. А гэта значыць, што калі ўжо справядлівасць мае дзейнічаць назад, дык нельга абмяжоўваць яе (бо на якой падставе?) да перыяду 1944—1989 гадоў, а пачаць ад 1923 і, няхай сабе, да 1989 г. А то бачыце, калі б'юць мяне — баліць, а калі я б'ю, дык гэта ўжо дзеля праўды і дэмакратыі. Прытым, будзе якраз 66 гадоў абнятых гэтым законам.

Не ведаю (на жаль, вялікі жаль) колькі яшчэ жыве вязняў Картуз-Бярозы і хто аб іх думае, хто скампенсуе іхнія крыўды і перапросіць? Але я ведаю, што яшчэ жыве вязень санацыі, сусветнай славы паэт Максім Танк. Каго ён замучыў, ці хаця пакрыўдзіў, што яго білі, мучылі ды здзекаваліся над паэтам польскія паліцаі і турэмныя вартаўнікі, за тое, што ён беларус. Хто перапрасіў і выплаціў кампенсацыю пакрыўджанаму і хвораму, без віны мучанаму не абы-якому, а слаўтаму паэту Максіму Танку? Ці адна кроў блакітная, а другая вадой разведзена? Калі прымяняць закон, дык аднолькава.

Тым больш, няхай ніхто не адважыцца карыстацца прынцыпам калектыўнай адказнасці.

**Васіль Петручук**

# Беларускі канцэрт у Брукліне

18 чэрвеня 1995 г. у Кафедральным саборы святога Кірылы Тураўскага Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Брукліне, сабралася народу больш, чым звычайна. Нядзельную багаслужбу адправіў мітрапаліт Ізяслаў разам з архімандрытам Інакентам, які адмыслова ў гэты дзень прыехаў з Дэтройта. Пасля службы ажыўленая атмасфера перанеслася ў грамадскую залу, дзе меў адбыцца канцэрт.

Ужо шмат гадоў прыхадская рада сабора выдае бюлетэнь „Царкоўны Пасланец", у якім апрача вестак з жыцця прыхода ўзнімаецца пытанне стварэння асяродкаў Аўтакефаліі на Бацькаўшчыне. І хоць сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь становіцца ўсё больш змрочнай, рэдакцыйная калегія мае намер актывізаваць выданне ды зрабіць яго больш даступным суродзічам на Бацькаўшчыне. У прынятым нядаўна рэдакцыйнай калегіяй „Звароце да беларускіх патрыётаў", між іншым зазначаецца, што не толькі камуністы, агенты расейскага імперыялізму ды абдураныя імі рабы руйнуюць сёння нашую незалежнасць, але і вякамі выпрактыкаваныя ў асіміляцыйнай дзейнасці варожыя царкоўныя і касцельныя сілы, што акрываючыся Божым Імем імкнуцца нашую свабоду адабраць ды нашую нацыю да звання знішчыць. У гэткіх умовах заданнем „Царкоўнага Пасланца" ёсць актывізацыя прапаганды ідэі Аўтакефаліі, якая на Бацькаўшчыне можа стацца паважным атрыбутам умацавання веры, духовасці і трываласці беларускай нацыі.

Беларускі канцэрт з удзелам вядомых артыстаў: Валянціны Пархоменкі, Алеся і Вольгі Казакоў ды Рымы Маленчанкі ладзіўся ў тым ліку і дзеля падтрымкі выдання. З ласкі артыстаў увесь збор ад канцэрта паступіў у выдавецкі фонд „Царкоўнага Пасланца".

Канцэрт адкрыўся малітвай мітрапаліта і першаіерарха БАПЦ Ізяслава. Затым уступнае слова прамовіў рэдактар „Царкоўнага Пасланца" Барыс Данілюк, які, згадаўшы сумныя падзеі ў Беларусі, прывітаў гасцей ды артыстаў.

Рэлігійныя песні і псалмы, беларускія песні ў цудоўным выкананні Валянціны Пархоменка стваралі шырокую гаму настрояў слухачоў — ад мінору да мажору. Эфектна і прывабліва гучэла трыо Валянціна Пархоменка, Алесь і Вольга Казакі.

Некаторыя песні публіка падхоплівала ўслед за артыстамі. Беларускія песні змяняліся амерыканскімі і ўкраінскімі. Валянціна Пархоменка перад выкананнем адной з амерыканскіх песень падкрэсліла ўдзячна унікальную рысу Амерыкі, дзе ўсе народы і нацыі жывуць у талерантнасці і міры, ды ўсе маюць магчымасць захоўваць свае рэлігійныя і культурныя традыцыі.

З дэкламацыяй псалмоў і свецкіх паэтычных твораў выступіла Рыма Маленчанка. Тэксты некаторых псалмоў здаваліся вельмі актуальнымі ў адносінах да сітуацыі ў Беларусі. Дарэчы, пераклад псалмоў на беларускую мову падрыхтаваў прыхаджанін Б. Данілюк. Рыма Маленчанка па-майстэрску выканала манаспектакль „Каля адвечнага парога" (аўтар Ала Саскавец, рэжысёр Зінаіда Пасюціна), у цэнтры ўвагі якога лёс старой бабулі — высяленкі з чарнобыльскай вёскі.

Самая маладая артыстка, 15-гадовая Вольга Казак праспявала слухачам колькі англамоўных і іспанамоўных тэкстаў, пакладзеных на ўласную музыку. Некаторыя з гэтых твораў прагучэлі перад публікай упершыню. Дарэчы будзе адзначыць, што ўжо ў колькіх конкурсах юных кампазітараў Вольга Казак выступала з поспехам ды атрымлівала ўзнагароды.

Канцэрт завяршыўся агульным спяваннем артыстамі і прысутнымі песні „Пачуй, о, ласкавая маці" (словы і музыка Б. Данілюка). Гледачы ўдзячна віншавалі артыстаў. Задавальненне ад канцэрту на кароткі час пасунула той духовы неспакой, які далятае ў Амерыку з Бацькаўшчыны.

**Прысутны**



*Кафедральны сабор св. Кірылы Тураўскага БАПЦ.*

# Радзіма — родзіна

### Частка XVIII

На тэму Радзімы размаўляў я з бацькам — Андрэем Баршчэўскім (1887—1975) многа разоў у 1960—1970 гадах. У тракце гэтых размоў бацька прывёў вялікую колькасць невядомых мне фактаў. Пры гэтым вельмі часта даваў сваю інтэрпрэтацыю ўсяго таго, што бачыў на працягу свайго доўгага і складанага жыцця. Прагну прывесці найбольш характэрныя фрагменты бацькавых выказванняў:

„Ты мяне пытаеш пра Радзіму, то я табе скажу, што ў нас такое слова ні выступае і айчына то таксамо ў нас ніхто ні гаворыт. Яно вядомо, што я панімаю аб чым ты гаворыш але ў нас то людзі ўжывают іншых слоў. Тут мы гаворым наш край, наша старана, родны куток, родзіна. Некаторыя гаворат айчызна, але мне здаецца, што гэто ні нашэ, але польске слово. Ну, а што касаецца бацькаўшчыны, то ў нас гэто слово выступае, але гаворачы аб бацькаўшчыне, то мы маем на мыслі свой падворак, свае будынкі. Ну, можэ ўсю сваю гаспадарку, значыцца тую, катору дасталі мы ад бацька. Ну і яшчэ аднэ. Калі выходзіт дзяўчына замуж і дастае ад бацька ў пасагу кусок зямлі або лонкі, то яна да канца жыця ідучы працаваць на гэтэ пасажнэ поле чы лонку, то будзе заўшэ гаварыці, што ідзе працаваці на бацькаўшчыну. Але так аб усёй нашай старане то мы бацькаўшчына ні гаворым. Але скажу табе такую штуку. Калі ў першу міравую вайну я служыў у царскай арміі і адступаў праз Беларусь, то там я ні раз чуў такіе слава як айчына, радзіма, бацькаўшчына. Значыцца, так яны гаварылі пра ўсю беларуску зямлю. Але тут то часцей гаворым родзіна от і ўсё.

А ўвогуле то мне здаецца так, што родзіну то чалавек панімае па-рознаму, у залежнасці ад таго колькі яму лет. От возьмі ты хоць сабе дзіця, каторэ толькі што нарадзілаcё. Ну то для такого дзіцяці родзіна то мацярын прыпол, цыцка і калыска. А калі дзіця пачынае поўзаці і хадзіці, то яно сотні разоў абпаўзе або абыдзе ўсю хату. То для такого дзіцяці родзіна то ўся хата. А калі яно мае ўжэ лет штэры — пяць і выходзіт на падворак, то для такога дзіцяці родзінаю становіцца цэлы падворак. Ну, а калі яшчэ падрасце і пойдзе да равесьнікоў і пачне гуляці па ўсёй вёсцы, то тады для яго родзіна — цэла вёска. А як пойдзе ў школу, а школа то ў нас была адна на пару вёсак, то тады ўжэ для вучня родзінаю становяцца ўсе тыя вёскі, з каторых прыходзілі вучні ў школу.

Ну, я табе скажу так. Калі я меў так можэ лет сем — восем, то я вельмі часта залазіў на самы верх бярозы, катора ў нас расла на падворку. То бывало залезу і гляджу кругом і бачу такіе вёскі як Рыбакі, Гарбары, Луку, Слабодку, Багнюкі, Таніцу. То мне тады здавалосё, што гэто ўсё то мая родзіна, бо бачыш, з гэтых вёсак то і дзеці ў адну школу хадзілі. А калі ўжэ я быў кавалерам і пачаў ездзіць і ў Нараўку, і ў Гайнаўку, і ў Ялоўку, і ў Зэльву, і ў Свіслач, і ў Берастаўіцу, і ў Міхалова, і ў Нарву, то я ўжэ шчытаў, што ўсё гэто належыт да мае родзіны. А калі мяне ўзялі ў руску армію, то бывало, калі толькі спаткаю салдата з Гродзеншчыны або з Брэстчыны то ўжэ мне здавалосё, што я спаткаў земляка і што ў нас адна родзіна. А як з-пад Мінска, з ліній фронту мяне аддавалі ў Маскву для ахраны жалезных дарог, то я ўжэ тады як спатыкаў чалавека з Мінска, Пінска чы Магілёва, то мне здавалосё, што гэто свой чалавек і што мы належым да тае самае родзіны. Так, што сам бачыш, што родзіна як бы павялічваецца разам з тым як расце чалавек і разам з тым як судзьба кідае гэтаго чалавека ні вядомо куды. Мне, то здаецца, што і тыя беларусы, што папалі, скажам у Афрыку чы Амерыку, то яны таксамо глядзят на ўсю Беларусь як на сваю родзіну. Па-моему то яно так, а чы я добрэ думаю чы не, то гэтаго то я ўжэ ні знаю".

**Алесь Барскі**

З былога

# І так жыццё прайшло...

Не хацелі мяне за яго аддаваць, ведалі, што ён за чалавек. Але ж я так яго пакахала! Упіралася пры сваім. Мама мне тыдзень не давалі есці, бацька біў штыкецінай, — нічога не дапамагло. У свае семнаццаць пайшла я замуж. Пайшла я проста ў пекла! Мой Коля пачаў піць. Свекры і сваякі дапякалі, што гэта праз мяне. Божа мой, у чым жа я вінавата? Прасіла, маліла — і слухаць не хацеў! П'яны крычаў: „Чаго рана замуж перлася?! Усе ведаюць, што ты добрая к...! Думаеш, я не ведаю, што, як толькі выйду з хаты, з чужымі на сене качаешся?! Узяў такую валацужную котку!". Колькі слёз я выліла! І ад свекраў мне даставалася! Нарадзіла ім пяцёра. Штогод нараджала. Баялася, што ненармальныя будуць — бацька ж усё піў ды піў. Слава Богу, дзеці здаровыя, нармальныя. Усе вучыліся добра, пайшлі ў свет. У горадзе жывуць. Марыся і Валя на дзяржаўнай пасадзе, у Грышы, Валодзі і Косці свае крамы; дзякуй Богу, не абанкруціліся, хоць кругом з прадпрымальнікамі рознае бывае...

Колькі разоў даводзілася мне ад п'янага мужа ўцякаць у дождж ці мароз! Літаваліся нада мною суседзі, пускалі ў свае хаты. Аднойчы Коля тыдзень да Каляд узяў сякеру, парубаў дзверы ды шафу. Яго бацькі сказалі, што добра мне так — заслужыла на такое! На другі дзень паехаў па столяра. Майстар у вочы лаяў Колю і яго бацькоў, што так яго выхавалі — усе ж людзі добра бачылі, як у нас справы маюцца. Толькі пасехаў, свекры накінуліся на мяне: гэта ты, харашуха, вінаватая, гэта праз тваіх каханкаў усё, і гэта пэўна быў твой хабаль!

Здавалася, канца не будзе такому жыццю! Бацькі не хацелі забраць мяне назад, гэта ж я сама такі сабе лёс выбрала...

Пахавала я свекраў. Дзеці пайшлі ў свет. Добра, што хоць сыны ў бацьку не ўдаліся!.. Коля, напіўшыся дэнатурату, замёрз пад крамай. Засталася я адна.

Спакой, цішыня. У горад да дачок не пайду. Прывыкла я да свайго дому, дворыка. Добра мне тут, у сябе...

Запісала Аўрора

# Юбілей махнацкіх пажарнікаў

25 чэрвеня 1995 г. пажарнікі-добраахвотнікі з вёскі Махнатае, што каля Гайнаўкі, святкавалі юбілей 60-годдзя свайго існавання.

У 1935 г. па ініцыятыве жыхароў была створаная пажарная дружына. Пры фінансавай дапамозе страхавай кампаніі ПЗУ і Паляўнічага гуртка была куплена ручная помпа. Пасля заканчэння II сусветнай вайны махнацкія пажарнікі пачалі прадаўжаць сваю дзейнасць у службе грамадству. Дасягнулі прытым найвышэйшы ўзровень прафесіяналізму ў Гайнаўскім павеце. З часам махнацкая дружына атрымала навейшую тэхніку, уключна з аўтамабілем для змагання з пажарамі лясоў, вёсак і іншымі стыхійнымі няшчасцямі, якія спасцігаюць насельніцтва.



*Узнагароду махнацкім пажарнікам уручае палкоўнік Ежы Ніткевіч.*

Сёння Пажарная страж у Махнатым налічвае 47 добраахвотнікаў, гатовых у кожнай хвіліне несці дапамогу грамадству. 25 чэрвеня з нагоды юбілею ў Махнатае з'ехалася шмат гасцей. Былі сярод іх паслы Беластоцкай зямлі, ваяводскія і гмінныя ўлады. Галоўнае праўленне Саюза добраахвотнай Пажарнай стражы РП адзначыла махнацкую дружыну сярэбраным медалём „За заслугі для пажарніцтва".

Афіцыйная частка закончылася канцэртам мастацкіх калектываў.

**палкоўнік пажарніцтва Ежы Ніткевіч**

**Фота Сяргея Грыневіцкага**

# Больш лепшых дарог

Гарадскія і гмінныя ўлады ў Кляшчэлях многа ўвагі прысвячаюць мясцовым дарогам. Сёлета адрамантавалі дарогі на шматлікіх найгоршых, ухабістых адрэзках, між іншым з Сухавольцаў у Залешаны-Равы, з Грузкі ў Пятроўшчыну і з Дашоў у напрамку Чаромхі, а таксама з тых жа Дашоў у Косну.

Будуць новыя асфальтаваныя адрэзкі дарог. Перш-наперш такой роўнай дарогі дачакаюцца жыхары Дабрывады на шляху Кляшчэлі—Дабрывада. Асфальт будуць класці цяпер, улетку.

Адрамантавалі гравейку з Войнаўкі ў Палічну. Па ёй ездзіць аўтобус ПКС з Гайнаўкі ў Палічну. Сёлстняй вясной, калі на згаданай дарозе было многа глыбокіх калдобін, спынілі — аж да таго дайшо — усе рэйсавыя аўтобусы сваё штодзённае „курсаванне". Цяпер яны ездзяць рэгулярна. У 1996 годзе — так пастанавілі на сесіі Мейска-гміннай рады ў Кляшчэлях — на адрэзку дарогі з Палічнай у Войнаўку пракладуць „смалоўку". Варта дадаць, што з Войнаўкі бягуць асфальтаваныя дарогі ў двух напрамках: у Гайнаўку цераз Вілюкі і Арэшкава ды ў Гайнаўку або ў Бельск-Падляшскі цераз Дубічы-Царкоўныя.

**Янка Зарэчны**




Дарагі Астронку! У адну ноч мне сніліся тры паскудныя сны. Я думаю, што яны кепскія, бо ты ўжо не раз падобныя талкаваў. Але ўсё ж думаю, мо ты пацешыш мяне, што нічога такога страшнага ў мяне не здарыцца.

Першы сон. Двое паліцэйскіх лупяць палкамі нейкага чалавека, які быццам бы забіў ці параніў іхняга калегу. Той калега ляжыць, кінуты ні то ў кузаў грузавіка, ні то ў нейкую фурманку.

Другі сон. Еду з нейкім чалавекам на машыне. Ездзім ад вёскі да вёскі і ніяк не можам трапіць да мэты. Уязджаем на вуліцу вёскі і, здаецца, едзем па прамой дарозе, але тут жа перад намі паяўляюцца сцены хат, і дарогі няма. Увесь час уязджаем у тупік, з якога няма выйсця. З трох бакоў — сцены вясковых хат, толькі ззаду — нічога.

Трэці сон. Нейкая забава. Увесь час праследуюць мяне два цёмныя тыпы. Яны — нейкай іншай нацыянальнасці, з-за мяжы. Нізкія, з чорнымі валасамі, адзін нават нябрыдкі. Спачатку рабілі мне здымкі, пасля трымалі ў руках ключы ад маёй хаты. Людзі гуляюць, а я сяджу на месцы. Танцуе нават нейкая жанчына-карлік, хтосьці яе запрасіў. Я сяджу, а побач са мною колішняя знаёмая, якая ўжо гадоў дзесяць таму памерла. Яна ўжо і тады была старая, а ў сне дык і зусім паморшчаная, брыдкая.

Вось мае сны, даражэнькі Астроне.

**Анэта**

Анэта! Першы сон прадвяшчае нейкую страту, хваробу, сум. Нядобра, калі нехта б'е чалавека ці жывёлу.

Другі сон гаворыць аб тым, што ў тваім жыцці ўзніклі нейкія цяжкасці, з якіх пакуль што выйсця не відаць.

Трэці сон сцвярджае факт, што вакол тваёй асобы будуць плёткі, у выніку якіх будзе табе сумна і крыўдна. Нядобра сніць брыдкіх людзей, асабліва жанчын.

Мусім падрыхтавацца да нягод. Жыццёвая дарога не выслана ружамі.

**Астрон**

# Дрэйф у заняпад

Аструдска-Эльблангскае суднаходства ў гэтым сезоне будзе мець на вадзе сем параходаў, якія разам змогуць забраць на палубу 373 пасажыраў. Экіпажы параходаў, якія плаваюць па канале між Аструдай і Эльблангам, маюць штораз больш працы. Тэхнічны стан канала горшае з году ў год. Суднаходства мае пяць 65-месных суднаў на канале, адзін 36-месны на возеры Крывое ў Ольштыне і адзін 12-месны на возеры Шэлёнг у Старых Яблонках. Можна наняць параход і на іншую трасу — каштуе гэта 2 млн. старых злотаў у гадзіну.

Рэйсы па канале Аструда—Эльбланг, на якім дзейнічаюць дзве шлюзы і пяць нахільных канатных пад'ёмнікаў, з'яўляюцца найбольшай і адзінай свайго роду атракцыяй. Падобны канал ёсць у Канадзе, па ім аднак судны не плаваюць. І над нашым каналам таксама павісла пагроза закрыцця для параходаў; прыходзіць ён у заняпад. Не папаўняюцца ўбыткі фашыны на берагах. Паварот у Бучынцы, дзе канал пашыраецца, каб судны маглі паварочвацца, вылажаны бетоннымі плітамі так, што параходы ўдараюць дном аб бетон. Вазкі ў пад'ёмніках паржавелі і калечаць барты. Мост у Рыбаках так разбіты цяжкім аўтамабільным транспартам, што з яго сыплецца каменне. Судны, якія праходзяць пад гэтым мостам, выключаюць рухавікі. Хуткасць параходаў абмежавана да 6 км/гадз. Калі не будуць прыняты станоўчыя меры, канал пратрывае яшчэ мо чатыры гады, а пасля трэба будзе яго закрыць для суднаходства.

**Андрэй Гаўрылюк**

## У Новым Ляўкове

### Небяспечнае скрыжаванне

Жыхары Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Падляўкова і Ахрымоў згодна сцвярджаюць, што скрыжаванне дарог Старое Ляўкова—Новае Ляўкова ды Падляўкова—Новае Ляўкова (хутар) небяспечнае. Паабапал згаданых дарог расце многа густа пасаджаных дрэў. З дрэў нізка звісаюць галіны і яны засланяюць бачнасць на дарогу. З-за галінастых дрэў не відаць ніводнага дарожнага знака і цяжка разабрацца хто мае першынство язды.

Пра гэта гаварылі, між іншым, на вясковым сходзе 8 лістапада мінулага года, калі выбіралі солтыса. Пагаварылі і... так асталося. Запісалі ў пратакол і паклалі ў папку. Да справы варта вярнуцца. Прыпамінаем пра гэта солтысу і мясцоваму раднаму.

**Жыхар Ляўкова**
*(прозвішча да ведама рэдакцыі)*




## Вялікі вучоны

Ён вялікі ў нас вучоны,
Толькі ходзіць без кароны,
Вельмі любіць пахваліцца
Што не ўмее памаліцца.
Хаця любіць падлізацца
І з бацюшкай запазнацца,
Любіць ездзіць у госці
Ветліва, без злосці.
Каб далі у падарунак
Вельмі добры пачастунак —
Тады дзякуе сардэчна,
Абяцае помніць вечна.
Калі дамоў ад'язджае
Шчыра ў госці запрашае.
Потым піша: — Выбачайце,
Да мяне не прыязджайце.
Калі буду ўжо здаровы,
Тады прашу на размовы.
Ды дарма яму здаецца,
Што хтось з ім мець справу рвецца.

**Мікалай Панфілюк**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. шпіён, 8. пакой для гасцей, 9. еўрапейская дзяржава, 10. кумір, 11. прозвішча амерыканскіх прэзідэнтаў ў 1797—1801 і 1925—29 г.г., 13. вадаспад у Фінляндыі, 15. горад у Судане, 16. перыядычны друк, 20. вялікі гнеў, 22. спартыўная настаўніца, 23. сталіца Галандыі, 27. вывучае псіхіку і свядомасць, 29. казачная птушка, якая спальвала сябе, а потым зноў узнікала з попелу, 30. далікатнасць, пяшчота, 31. вялікі горад у Бельгіі, 32. дошка прыбітая да сцяны, на якую ставілі пасуду, 33. гучны смех, 34. планета.

**Вертыкальна:** 1. рака ў Македоніі, 2. усясвет, 4. фундамент, 5. дыван, 6. пахучая смала, 7. горад на поўначы Беларусі, 12. старажытны крывіцкі горад, 14. лірычны верш, камплімент, 16. вяроўка, якою звязвалі пярэднія ногі карове, каню, 17. рай, 18. жаночае імя, 19. парыжская рака, 21. вымярае ціск паветра, 24. зямля засаджаная агароднінай, 25. мера паверхні зямлі, 26. цвіце ў верасні, 27. мужчынскае імя, 28. магаметанства.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 22 н-ра:**

**Гарызантальна:** святар, бэлька, карэта, кара, Эпір, качарэжнік, рада, урад, клумба, Бамбей, забава.

**Вертыкальна:** свечка, арка, бэта, Кашмір, рэферэндум, ракада, Эпікур, разьба, адозва, клей, база.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міравіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 15,40 złotych (150 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Як задумаў Ясь жаніцца

Як задумаў Ясь жаніцца,
Стала хата калаціцца,
Нетактоўнасці паўсталі,
Што суседзі нават зналі.

Справа тут была такая,
Ды і не абы-якая.
Ясь хлапец немаладзенькі,
Не шукаць яму паненкі.

Але маці — завадзіла
Для сыночка стала мілай:
Просіць, радзіць, умаўляе
І дзяўчат перабірае.

Вазьмі сынку Кацярыну,
Гэту шчуплую дзяўчыну,
А не тую тоўсту Клаву,
Што як сядзе — на ўсю лаву.

А хоць бы сабе Палашка,
Працавіта як мурашка,
Яна ў хаце і на полі
Выканае свае ролі.

Маці радзіць і гадае,
Часам і сама не знае
Што гаворыць і што робіць,
Бо у думках адно мроіць.

Ясь ужо гатоў забыцца,
Як спярша хацеў жаніцца,
Цяпер хоча ён спакою, —
Дзярэ лысіну рукою.

Аж сказаў тут бацька слова
І было яно талкова:
— Ясь гады свае ўжо мае,
Жонку хай ён сам шукае!

Ю. В-скі

*— Чаму не ратуеш?*
*— Дык гэта ж мой сусед.*

Мал. Я. Бусла

## Аўцюкоўскія жарты

### Брыгадзірава азбука

Уладкаваўся аўцюк брыгадзірам на будоўлю. От, кожную раніцу дастае з кішэні спіс брыгады і супраць кожнага прозвішча ставіць нейкую літару.

Начальнік цікавіцца:

— Расшыфруй свае іерогліфы. Што азначае „г"?

— Гэта ж, каласок, трэ разумець, што Іван гуляе.

— А літара „х"?

— Хварэе.

— Ну, а літара „к"?

— Коўтнуў...

### Касец і ўдава

Наняла ўдава чалавека скасіць сена-жаць. Той касіў, касіў дый заначаваў у яе, бо цёмна было ісці ў сваю вёску.

Раніцой аўцюкоўка кажа:

— Мусіць, дзядзька, маніцё, што вы нежанаты... Вельмі ж добра касіцё... Мо і заўтра прыдзіцё, калі не заняты?..

### Як аўцюк снедае

Сядзіць аўцюк за сталом, снедае. Жонка:

— Чаму аладкі не ясі?

— Далёка, калінка, стаяць. Каля сябе ямшчэ не ўсё з'еў...

### Чаму багата дзяцей!

Ляжыць Мікола на ложку, курыць.

У яго хаце, як у гарэме турэцкага султана, — багата жанчын. Жонка, дачка, бабкі-суседкі завіталі пагуляць. У Міколы пяцёра дзяцей.

Адна з бабуль дый падтрунівае:

— Раней, каласок, святла ня було, дак рана спаць клаліся, от і дзяцей багата нажывалі. А як жа ты кашару дзетак прыдбаў пры лямпачцы?

Мікола-трактарыст па слова ў кішэню не лезе. Тут жа адбрыў суседцы:

— Ведаеш, калінка, вельмі ж лямпачкі вочы рэжуць. Выключаем рана...

### Такога трэба пашукаць

Багата сярод аўцюкоў трактарыстаў. Такога, як Есьман, днём з агнём трэба пашукаць. Такі — адзін!

Звозіць копы саломы да стога. Брыгадзір прыпыняе:

— Чаму хутка ездзіш?

— Салому к стогу цягаю.

— Дзе твая салома?

Азірнуўся:

— Ха, каласок, я й не прыкмеціў, што салома адчапілася...

Уладзімір Ліпскі

## СЕНТЭНЦЫІ

У рэчаіснасці колеры больш спакойныя, чым мы іх бачым.

* * *

Калі сягаеш далёка, не бачыш блізка; калі не бачыш блізка, не сягаеш далёка.

* * *

Ідучы па крузе, стопчаш ногі і не дойдзеш да мэты.

* * *

Не тое цяжкае, што бачыш, а тое, што нясеш.

* * *

Шэрага не так многа, бяры яснае.

Барыс Руско

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

Ярузельскі нанёс афіцыйны візіт у СССР. Завезлі яго на Сібір, каб паказаць будову БАМа. Убачыў групу маладых людзей у брызянтоўках, а над імі лозунг „Моладзь будуе БАМ". Падыходзіць да іх:

— Колькі вам гадоў?

— Дваццаць.

— А вам?

— Дваццаць пяць.

— А вам?

— Пажыццёва.

* * *

Падчас першай пабыўкі ў Польшчы папа рымскі сустракаецца з Геркам.

— Скажыце, пан сакратар, ці рады вы, што паляк засядае на ватыканскім троне.

— Так, толькі шчыра гаворачы, то хацеў бы бачыць на ім Бабюха.

* * *

Герак захацеў даведацца пра сваю папулярнасць у народзе. Наведаў адно прадшколле і пытае малыша:

— Ці ведаеш мяне?

Малыш круціць галавою.

— Ну, прыпомні сабе: мама з татам напэўна пра мяне гаварылі. Дзякуючы мне маеце каляровы тэлевізар, новую мэблю, самаход.

Узрадаваны хлопчык глянуў на Герка і выгукнуў:

— Хлопцы, мой дзядзька Гельмут прыехаў!

* * *

Герак візітуе порт у Гдыні.

— Што везяце? — пытае матросаў.

— Вугаль у Індыю, а назад — чай і спецыі.

— А што вы везяце? — пытае другіх.

— Серу ў Аргенціну, а назад — ялавічыну і віно.

— А вы куды плывяце?

— Вязем станкі ў Савецкі Саюз.

— А назад?

— Дамоў вяртаемся на поездзе.

* * *

— Ці гэта праўда, што Маякоўскі пакончыў жыццё самагубствам, а калі так, то якія былі яго апошнія словы?

— Гэта праўда, а апошнімі яго словамі былі „не страляйце".

* * *

Пытанне да радыё Ерэван:

— Ці гэта праўда, што хутка будзе ў нас яшчэ горш?

— Гэта няпраўда: каб магло быць горш, то ўжо было б.

* * *

Заходні журналіст у васьмідзесятыя гады ўпершыню прыехаў у Польшчу.

— Што гэта, чэргі перад крамамі? У нас гэтага няма, — гаворыць да свайго польскага калегі.

— Вы папросту затрымаліся ў грамадскім развіцці. У нас 45 гадоў таму таксама іх не было.

* * *

На навуковай канферэнцыі ў Парыжы, прысвечанай новым метадам вырошчвання бульбы, было зачытана многа рэфератаў. Найбольшае зацікаўленне выклікала выступленне савецкага вучонага, які сказаў, што ў іх краіне бульбу капаюць ужо па трох тыднях пасля пасадкі.

— Гэта немагчыма, — здзівіўся адзін заходні вучоны.

— Магчыма, вы папросту не ведаеце, што такое голад.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Не ведаю, ці варта прыносіць сваё жыццё ў ахвяру бацькам — дзеля іх спакою і раўнавагі. Урэшце ж жыццё ў чалавека адно, і мае ён, бадай, права пражыць яго па сваіх канонах...

Я сваіх бацькоў кахала да такой ступені, што магла б для іх аддаць нават жыццё. Дык калі мама-сардэчніца ўзняла далоні ўверх, просячы Бога, каб я апаматалася, я сказала: „Добра, не выйду за яго!"

Мой каханы адпавядаў маім бацькам толькі ў адным: быў мілым чалавекам. Апрача гэтага, усё было на „не": намнога старэйшы, разведзены, з дарослым сынам, якога суд прысудзіў яму, бо малодшую дачку аддалі жонцы. А найгоршае з усяго гэтага для маіх бацькоў было тое, што быў ён звычайным рабочым. У мяне ж была вышэйшая адукацыя.

Не хочучы хваляваць хворую маці, я зачынілася ў самой сабе. Зразумей, бацькі бралі пад увагу ўсе „за" і „супраць", але не заўважалі аднаго: што я без яго не магла жыць, бо кахала яго без памяці. І нават кіламетры, якія да ўсяго яшчэ нас раздзялялі, не маглі нам перашкодзіць сустракацца.

Мой каханы жыў у іншым горадзе, меў там добрую працу, дык мы сустракаліся раз у тыдзень. Я мусіла ехаць да яго, каб не здагадалася мая мама. Не давядзі Божа, каб яна ўбачыла нас разам! З хворым сэрцам, упала б там, дзе стаяла. А я не хацела быць прычынай яе смерці. Не патрапіла, аднак, забыцца пра гэтага чалавека.

Некалькі гадоў я гуляла ў жмуркі з бацькамі, а пасля прызналася, што ўсё ж сустракаюся з ім. Тым часам мінула ўжо амаль восем гадоў ад часу нашага знаёмства. На працягу ўсіх гэтых гадоў не было ніводнага дзянька, калі б я не дакарала сябе, што руйную сваё жыццё. Як толькі клалася спаць і заплюшчвала вочы, бачыла сваю самотную, бо без дзяцей, будучыню. А як жа я магла рашыцца на дзіця, калі гэта магло б канчаткова прыбіць маю маму?!.

Тым часам маме зрабілі аперацыю, і яна адчула сябе значна лепш. Я вырашыла сказаць ёй, што выходжу замуж. Прыняла яна гэты факт цалкам спакойна, зусім не так, як думала я. Мо таму, што адчувала сябе лепш, а мо таму, што магла ўжо мяне адпусціць ад сябе.

Але нікуды я не паехала. Засталася з бацькамі, а муж пачаў прыязджаць да мяне так часта, як толькі мог. Бацькі вельмі палюбілі яго і шкадавалі, што супраціўляліся нашаму шлюбу раней. Калі пазнаёміліся з ім бліжэй, сапраўды зразумелі сваю памылку.

Калі мы сустрэліся з ім у адной з прыморскіх мясцовасцей, дзе мы былі ў адпачынку, я была яшчэ цалкам маладой жанчынай. Цяпер, калі мне ўжо сорак тры гады, я раптам адчула сябе старой. Я — замужняя, магу мець дзіця, якое будзе мець бацьку, але ніяк не магу рашыцца, што рабіць. Ці ўжо не занадта позна? Можа гэта адзіны пункт, у якім я пацыху мела прэтэнзіі да мужа. Яму дастаткова было мяне. Ён ужо спазнаў радасць быцця бацькам, бо ў яго было двое дзяцей. Я ж, хаця ў добрых адносінах з яго жанатым ужо сынам, адчуваю сябе нейкай пустой у сярэдзіне. Маё сэрца не запаўняе каханне да свайго дзіцяці

Я размаўляла з лекарамі. Кажуць, што пазнавата на першае дзіця, што гэта будзе рызыка. Што рабіць?

Анэта

Анэта! На такое пытанне, пастаўленае рубам, ніхто табе не адкажа так, як ты сама. Мо варта спрабаваць, ёсць жа апека ў бальніцы, робіцца доследы, можна праверыць ужо ў пачатку цяжарнасці, ці дзіця будзе здаровае. Горш, аднак, было б сказаць, як вытрымае гэта твой арганізм. Але ёсць шмат прыкладаў на тое, што жанчыны і ў гэтым узросце пачынаюць сваё мацярынства, хаця найлепш было б гэта зрабіць да дваццаці васьмі гадоў.

Не разумею, аднак, тваіх бацькоў. Няўжо яны не зычылі табе звычайнага людскога шчасця? Няўжо трымалі цябе пры сабе, баючыся аддаць дачушку „чужому" чалавеку? Такі ж чалавечы лёс, што дзеці, калі дарастаюць, адыходзяць ад бацькоў і паяўляецца ў іх нешта яшчэ даражэйшае за бацькоў — дзеці. Такі лёс, даражэнькая.

Сэрцайка